№ 11 (944) 23 сакавіка 2016 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



Старонка 2.

**Беларускі след у брусэльскіх тэрактах**



# 22 гады за тое, што ўкраінка

## і абараняла сваю дзяржаву



**На столькі расійскі суд асудзіў лётчыцу Надзею Саўчанку. Працэс павінен быў прынізіць Украіну і паказаць яе безабароннасць перад Расіяй.**

**Суд назваў матывам дзеянняў Саўчанка «нянавісць да рускамоўных людзей». Між тым гэтая ваеннаслужачая проста вяла баявыя дзеянні на тэрыторыі Украіны, абараняючы яе тэрытарыяльную цэласнасць. Саўчанка прызнаная вінаватай у гібелі расійскіх журналістаў. Між тым ва Украіне падазраюць, што пад выглядам журналістаў у так званых ДНР і ЛНР дзейнічалі агенты расійскіх спецслужб. Рашэнне аб вінаватасці Саўчанка прыняла тройка суддзяў на чале са старшынёй Леанідам Сцепаненкам, паведамляе «Бі-бі-сі». Назваць тэрмін пакарання суддзя адразу не змог: Саўчанка пачала спяваць, заглушыўшы яго голас. Ён абвясціў пяціхвілінны перапынак. Толькі пасля перапынку прагучаў прысуд: 22 гады зняволення.**

Працяг на старонцы 3.

# Шэсце на Дзень Волі дазволілі

Статкевіч заклікае людзей прыйсці з кветкамі **да помніка Янку Купалу**.

Гарадскія ўлады дазволілі шэсце ў гонар 25 Сакавіка па традыцыйным маршруце «Акадэмія навук — плошча Бангалор». Хаця арганізатары прасілі даць ім магчымасць прайсці па цэнтральным праспекце сталіцы — ад Акадэміі навук да парку Янкі Купалы. Яны нагадвалі, што 25 сакавіка — вялікая дата ў беларускай гісторы. Былы палітвязень Мікалай Статкевіч заклікае людзей прыходзіць а 17:00 з кветкамі і нацыянальнымі сцягамі да помніка Купалу, а ўжо адтуль ісці да Акадэміі навук.

«Лічу, што гэты дзень, калі беларусы ўпершыню ў найноўшай гісторыі заявілі пра свае права на незалежнасць, заслугоўвае іншага стаўлення. Калі мы будзем дазваляць некаму грэбаваць святымі для нашай нацыі датамі і асобамі, то што стане з нашай краінай?» — адзначыў Статкевіч.

Дазволеная акцыя каля Акадэміі навук мае распачацца а 18-й гадзіне.

**Зміцер Панкавец**

**Дзень Волі**

адзначаецца 25 сакавіка ў гонар абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918. Традыцыя масавага святкавання адрадзілася ў пачатку 90-х, а з другой іх паловы Дзень Волі ператварыўся ў свята салідарнасці незалежнага грамадства.

## Лукашэнка: Я прыхільнік павышэння пенсіі на 3 гады

«Мы павінны ісці паступова і акуратна». **Старонка 5.**

## Вашчыкоўскі: Нашы продкі былі ахвярамі адной імперыі

Міністр замежных справаў Польшчы наведаў Мінск упершыню за 7 гадоў. **Старонка 3.**

## Пані-садыстка з Мазырскага павета

Пра Ганарату Стоцкую з Рэмезаў, ад учынкаў якой кроў стыла ў жылах сучаснікаў, піша Васіль Герасімчык. **Старонка 14.**

# Беларусы, якіх расійскія спецслужбы запісалі ў «брусэльскія смяротнікі», абвергглі сваю датычнасць да тэрактаў

Пакуль цяжка сказаць, адкуль пайшла такая інфармацыя. Аднак блізкі да расійскіх спецслужбаў партал «Лайфньюс» 14 сакавіка апублікаваў інфармацыю, што два беларусы, якія перайшлі ў іслам, рыхтуюць тэракты ў Бельгіі.

Калі 22 сакавіка ў аэрапорце і метро Брусэля выбухнулі бомбы, на «Лайфньюс» з'явіліся іх імёны. Гэта Іван і Аляксей Доўбашы.

Беларусы? Тэрарысты? Нечакана.

Аказалася, што гаворка пра двух хлопцаў, якія 8 гадоў таму пераехалі ў Бельгію.

Нам удалося звязацца з двума братамі.

Сулеймана Доўбаша раней звалі Іван, другога, Халіда, — Аляксей. Яны родам з Гомеля, у Бельгію пераехалі ў 2007-м. Усе сябры на старонцы Халіда Укантакце — з Гомеля.

Абодва браты абвергглі інфармацыю пра сваю датычнасць да сённяшніх тэрактаў у Брусэлі. Усім СМІ яны даслалі ідэнтычныя адказы.

Сулейман Доўбаш адпісаў: «Гэтыя артыкулы — чарговая жоўтая прэса і бяздумныя спробы ўбогіх журналістаў атрымаць чарговую «зорачку». Першы артыкул выйшаў 14 сакавіка. Нас там запісалі ў смяротнікі, пры гэтым нас не шукала паліцыя, нам ніхто нават не тэлефанаваў. Не лічыце дзіўным? Для супрацоўнікаў паліцыі не складзе цяжкасці праверыць, выязджалі мы ў Сірыю ці не. На дадзены момант мы звярнуліся ў [бельгійскія] спецслужбы па тлумачэнне сітуацыі. Там нам адказалі, што нічога падобнага ім не вядома і супраць нас яны нічога не маюць. І самае галоўнае, калі мы смяротнікі — чаму мы жывыя цяпер? Калі мы тэрарысты — чаму нас не арыштавалі?»



Халід-Аляксей Доўбаш — аматар байкерства. На ягонай старонцы ёсць фота ў шлеме.

Халід Доўбаш, які раней быў Аляксеем, — старэйшы з двух братоў. Фота са старонкі хлопца Укантакце.

Халід Доўбаш у адказ на пытанне пра ягоную сувязь з Юнусавым дадаў: «Я не буду апраўдвацца перад вашымі здагадкамі. Калі ў вас ёсць доказы, што я нейкім чынам з ім звязаны або ўваходзіў з ім у кантакт, ці стаяў з ім на адной вуліцы і вы яго прадставіце мне, тады я буду лічыць дарэчным вам адказаць... А паколькі ў вас такой інфармацыі няма і ніколі не будзе, я не стану апускацца на ўзровень абвяржэння вашых выдумак».

Такім чынам, абодва заявілі, што жывуць у Бельгіі і ніколі не мелі праблемаў з мясцовымі спецслужбамі.

Варта адзначыць, што хлопцы пакуль ніяк не патлумачылі, чаму памянялі беларускія імёны на арабскія. Старонка Укантакце Сулеймана Доўбыша мае назву «hagraa».

Расейскія СМІ 14 сакавіка напісалі пра двух беларусаў-братоў, якія нібыта рыхтуюць тэракты ў Бельгіі.

Прэс-сакратар КДБ Дзмітрый Пабяржын пацвердзіў, што браты Аляксей і Іван Доўбашы, якіх падазраюць у арганізацыі тэрактаў у Брусэлі, сапраўды паходзяць з Беларусі.

«Так, яны ўраджэнцы Беларусі. КДБ вядома пра іх існаванне, у дачыненні да гэтых асоб вядзецца праверка», — сказаў сп.Пабяржын.

Адносна іх датычнасці да тэрактаў КДБ інфармацыі не каментуе.

**Сяргей Гезгала**

# Беларусы-мусульмане: радыкалізацыя адбываецца за мяжой

Са слоў міністра ўнутраных спраў Ігара Шуневіча, у шэрагах тэрарыстычнай «Ісламскай дзяржавы» ваююць дзесьці 10 асоб, што маюць або раней мелі беларускае грамадзянства. Дакладна вядома толькі пра аднаго: 33-гадовы гродзенец Дзяніс Васільеў загінуў на сірыйска-іракскай мяжы ў лістападзе мінулага года.

Туды ён трапіў з Аўстрыі, дзе шукаў палітычнага прытулку і трапіў да вярбоўшчыкаў ІД.

Так здарылася і з ураджэнцам Бабруйска Аляксеем (імя зменена), сынам узбека і беларускі.

Гэты хлопец вызнаваў рэлігію бацькі і ў Беларусі не быў радыкалам. Але паехаў гадоў з 10 таму ў Ірландыю і трапіў там пад уплыў прапагандыстаў радыкальнага ісламу.

Вярнуўшыся на радзіму браць шлюб, гэты хлопец накінуўся на імама, беларускага татарына, які, у разуменні хлопца, недастаткова правільна праводзіў святочны абрад.

Тады гэта насцярожыла сваякоў, якія прасілі імама паўплываць на ізхнага сына. Але погляды хлопца аказаліся такімі моцнымі, што ўсе довады святара сутыкаліся з сустрэчнымі абвінавачваннямі ў адыходзе ад канонаў ісламу.

Больш за тое, Аляксей перацягнуў у радыкалізм сваю жонку Святлану, таксама мусульманку, беларускую татарку. Праз нейкі час яна нарадзіла дзіцё і яны разам з'ехалі ў Сірыю.

Гэта быў удар па сем'ях маладых. Маці дзяўчыны са слязамі маліла ўплывовых ісламскіх святароў вярнуць іхнюю дачку ў Беларусь.

Аляксею туды пісалі эсэмэскі з цытатамі вядомых муфціяў пра каноны ісламу і памылкі радыкалаў, але той адказваў зрэдку і рэзка.

Аднойчы ён нават напісаў, што ўсе вашыя довады — лухта. Бо, маўляў, сёння ён бачыў забітага кяфіра (няверны ў разуменні баявікоў), труп якога смярдзеў на сонцы, а вось мёртвыя «свае» пахнуць міскам (традыцыйны арабскі парфюм).

Ад адчаю цешча Аляксея звярнулася да беларускіх дыпламатаў, але тыя таксама развялі рукамі, адказаўшы, што тэрыторыя, на якой знаходзіцца сям'я, не кантралюецца сірыйскім урадам.

Але з пару месяцаў таму маці Святланы сказала журналісту «Нашай Нівы», што сям'я вярнулася ў Беларусь, пераасэнсаваўшы выбар.

Невядома, ці ваяваў там Аляксей, можа быць, да гэтага не дайшло. Але сям'я пакуль наадрэз адмаўляецца распавядаць, што бачыла ў Сірыі і як уцякла з ІД.

**Арцём Гарбацэвіч**

## Сціслa

### Apple прэзентавала айфон з маленькім экранам

Карпарацыя *Apple* прэзентавала смартфон *iPhone SE* з 4-цалевым экранам. Гэта першы 4-цалевы смартфон кампаніі з часоў выхаду *iPhone 5S* — мадэлі 6 і 6S мелі большую дыяганаль. *iPhone SE* абсталяваны 12-мегапіксельнай камерай з падвойнай успышкай і здольны склейваць панарамы да 63 мегапікселяў, а таксама здымаць відэа ў пашырэнні 4K. *Apple* таксама абяцае ў прыладзе больш хуткі Wi-Fi і LTE і палепшаны час працы ад батарэі ў параўнанні *iPhone 5S*. Цана на *iPhone 5SE* будзе складаць 399 даляраў за 16-гігабайтную версію і 499 даляраў за 64-гігабайтную. Продажы пачнуцца 31 сакавіка.

### Невядомы здзейсніў напад на краму ў Бабруйску

Невядомы мужчына 21 сакавіка ў 12:20 пад пагрозай гвалту спрабаваў скрасці выручку ў краме «Кветкавая сімфонія» па вул. 50 гадоў ВЛКСМ у Бабруйску. Яго прыкметы: на выгляд 25—35 гадоў, рост каля 180, валасы цёмна-русыя падоўжаныя, мелася моцная няголенасць, хударлявага целаскладу, на твары былі сонечныя акуляры ў фіялетавай аправе, апрануты ў куртку шэрага колеру да сцягна, шэрыя джынсы. Калі маеце інфармацыю, праваахоўнікі просяць паведаміць па тэлефонах: (29) 607-65-28, (33) 628-97-73, (0225) 78-28-45 альбо 102.



## Апытанне на nn.by

**Ці даспадобы вам, каб на «Еўрабачанні» прадстаўнік Беларусі спяваў голым?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 77 | 11% |
| Не | 199 | 29% |
| Фу... | 416 | 60% |

Усяго прагаласавала 692 чалавекі.

## Самае чытанае на nn.by за 16—22 сакавіка

1 Мужчына з рыдлёўкай накінуўся на пікетоўшчыкаў за Саўчанка ў Мінску ВІДЭА
2 Унучка Сталіна з'явілася ў сацсетках у дзіравых калготках і з цацачным аўтаматам
3 Упершыню за доўгі час на беларускай мове была абароненая дысертацыя па медыцыне
4 Мужчына здзейсніў хуліганскія дзеянні сэксуальнага характару ў метро, яго шукае міліцыя ФОТА, ВІДЭА
5 Ivan выступіць на «Еўрабачанні» голым і з ваўкамі
6 Сям'я мінчукоў з'ехала жыць у вёску пад Браславам: «Тут лепшае асяроддзе для жыцця з дзецьмі. І школа лепшая, і людзі»
7 «Для маёй маці і сястры я псіх» — гутарка з трансгендарнай беларускай
8 Скандал паміж Люцыяй Лушчык і Ілонай Герашчанка працягваецца: да яго далучылася папулярная расейская блогерка
9 Як Юрый Чыж у 1996 годзе ўладу крытыкаваў: «Ідзе нагнятанне псіхозу»
10 Крыж Еўфрасінні Полацкай знаходзіцца пад Масквой?

# Вашчыкоўскі: Нашы продкі былі ахвярамі адной імперыі

**Упершыню за апошнія восем гадоў** Беларусь з двухбаковым візітам наведаў міністр замежных справаў Польшчы.

Упершыню за апошнія восем гадоў Беларусь з двухбаковым візітам наведаў міністр замежных справаў Польшчы Вітальд Вашчыкоўскі. Яшчэ ў 2010 напярэдадні выбараў у Мінск сумесна з нямецкім міністрам Гіда Вестэрвеле прыязджаў Радаслаў Сікорскі. Аднак пасля разгону Плошчы перамовы замарозіліся. Вітальд Вашчыкоўскі — прадстаўнік кансерватыўнага ўрада, які прыйшоў да ўлады ўвосень летась. «Новы ўрад палічыў, што ненармальна, калі суседзі доўгі час не сустракаюцца», — адзначыў Вашчыкоўскі.

Ён пачаў свой візіт у Беларусь з наведвання Курапатаў. І гэта сімвалічны крок. «Нашы народы былі ахвярамі адной імперыі», — адзначыў пан міністр.

Кіраўнік беларускага МЗС Уладзімір Макей адзначыў, што з польскім калегам яны правялі «адкрытую, шчырую і плённую размову». «Гэта знакавая і своечасовая падзея», — дадаў ён. Сапраўды, Вашчыкоўскі — гэта першы еўрапейскі візіцёр такога рангу пасля зняцця санкцый супраць беларускіх чыноўнікаў.



SVABODA.ORG

Міністр замежных спраў Польшчы ў Курапатах.

Макей адзначыў, што Беларусь вельмі настроеная на нармалізацыю адносін з Еўрасаюзам. «Аднак гэта не значыць, што мы будзем з кімсьці разрываць адносіны. Беларусь будзе імкнуцца дыверсіфікаваць свае адносіны», — адзначыў беларускі міністр.

У хуткім часе Макей павінен здзейсніць візіт у адказ у Варшаву. Пра візіт на больш высокім узроўні гаворкі пакуль не вядзецца.

Абодва міністры падкрэслівалі, што гаворка вялася на самыя розныя тэмы: ад эканамічнага супрацоўніцтва да культурнага. «На жаль, за апошні час тавараварот паміж Беларуссю і Польшчай зменшыўся, цяпер мы будзе працаваць над тым, каб узнавіць яго і нарасціць», — гэта зноў словы Уладзіміра Макея.

На пытанне карэспандэнта агенцтва БелаПАН, якое Уладзімір Макей прадставіў як «апазіцыйны СМІ», ці абмяркоўвалі бакі пытанне акрэдытацыі тэлеканала «Белсат», Вашчыкоўскі адказаў: «Пакуль не. Гэта наперадзе».

Польскі міністр адзначыў, што для яго партыі пытанне правоў чалавека вельмі важнае. «Але свет не ствараўся за адзін дзень», — вобразна адзначыў польскі госць. Маўляў, Польшча чакае паляпшэння сітуацыі ў Беларусі ў гэтым плане, але не імгненнага.

Візіт адбываўся з ініцыятывы польскага боку, аднак Мінск арганізаваў усё вельмі хутка. «Я ехаў у Беларусь без усялякіх папярэдніх дамоваў», — сказаў пан Вашчыкоўскі.



**Смерць нікога не мінае**

18 сакавіка памёр былы міністр замежных спраў Нямеччыны Гіда Вестэрвеле. У яго была лейкемія, апошнія чатыры месяцы ён правёў у шпіталі пасля трансплантацыі касцявога мозгу.

Дыягназ «лейкемія» Гіда Вестэрвеле паставілі ў 2014 годзе — праз паўгода пасля сыходу ў адстаўку з пасады кіраўніка нямецкага МЗС.

Абмяркоўвалася таксама пытанне змяншэння цаны на візы для грамадзян Беларусі, трансгранічнае супрацоўніцтва, нават адносіны з Кітаем.

Пасля Мінска Вітальд Вашчыкоўскі наведаў Ваўкавыск, адкуль паходзіць яго маці. «Мы з вамі землякі», — заўсміхаўся ўраджэнец Гродзеншчыны Уладзімір Макей.

Сустрэча Вашчыкоўскага з Аляксандрам Лукашэнкам можа адбыцца ў сераду.

**Зміцер Панкавец**

# Як Чыж у 1996 годзе ўладу крытыкаваў: «Ідзе нагнятанне псіхозу»

У публікацыях дваццацігадовай даўніны Чыж паўставаў **зусім іншым чалавекам**, чым мы звыкліся за апошні час.

У 1990-я бізнэсмен нават публічна праз недзяржаўныя СМІ крытыкаваў дзеянні ўладаў. Прыводзім урыўкі з інтэрв'ю Чыжа газеце «Свободные новости», якое выйшла ў сакавіку 1996 года.

Тады гаворка зайшла пра перарэгістрацыю недзяржаўных прадпрыемстваў. Чыж казаў, што прайсці яе змогуць толькі буйныя гульцы, а вось дробным давядзецца цяжка. Таксама прэтэнзіі Чыжа былі да асабліва набліжаных да ўлады бізнэсменаў, якім робяцца выключэнні.

«Магу назваць пару-тройку дзеячаў, для якіх робяцца выключэнні з правіл і якія сапраўды ўяўляюць цікавасць для дзяржавы. А ўсе астатнія? Выглядае, што нашым уладам прыносіць задавальненне глядзець на гіпертрафіраваны гандаль, пры якім можна накруціць 100% зверху і пры гэтым глядзець нявіннымі вачыма», — абурался Юрый Аляксандравіч.

Вось яшчэ адзін цікавы пасаж Чыжа, асабліва сёння, калі КДБ выставіў яму амаль аналагічныя абвінавачанні.

«Мноства фірмаў рэгіструецца з адной мэтай — сысці ад падаткаў; месяц папрацавалі, а пасля закрыліся, заснавальнікі зніклі. Тым больш сёння новы пашпарт атрымаць танней, чым заплаціць падаткі».

Пасля яшчэ адна порцыя крытыкі ўлады. «Пра нацыяналізацыю яшчэ ніхто не гаворыць, але не выключаю, што трымаюць у галаве. Ідзе нагнятанне псіхозу [...] Гэта чыста папулісцкі жэст — народу ж патрэбна нешта перыядычна падносіць. Не атрымліваецца накарміць, апрануць, «запусціць», пакаштуйце на смак перарэгістрацыю. Почырк адзін: калі не з'есці цалкам камерсантаў, то хаця б замінаць іх працы».

У чарговай порцыі крытыкі Чыж нават спрабуе разважаць пра карані праблем у грамадстве.

«Адкуль у нас з'явіцца нешта новае і перадавое, калі людзей усё жыццё арыентавалі на падпарадкаванне? Я не магу прыняць такую палітыку. Каб дырэктар буйнога завода нешта вырашаў і нешта хацеў, ён павінен быць уласнікам», — казаў Юрый Чыж.

Ці магчыма быць у Беларусі паспяховым бізнэсменам і адначасова ўзорным падаткаплатнікам?



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

«Я б не сказаў, што той, хто займаецца вытворчасцю, плаціць вялізныя падаткі. Гэта ў нейкай ступені нагнятанне жарсцяў з падачы гаспадарнікаў, якія давялі вытворчасць да ручкі і якім нейкім чынам трэба апраўдвацца, чаму заводы стаяць, чаму заводы працавалі ў страту. [...]

А што тычыцца падаткаў, то гэта ўжо ўнутранае «я» падкажа: ці збірай барышы на асабістым рахунку, пры гэтым не забываючы пра дзяржаўныя апетыты, ці ўкладвай у развіццё сваёй справы. Калі ты прыйшоў «усур'ёз і надоўга», то спынішся на другім варыянце».

**Зміцер Панкавец**

# 22 гады зняволення за тое, што ўкраінка

Працяг са старонкі 1.

Абвяшчэнне прысуду заняло два дні. Часамі Саўчанка адкрыта смяялася з фармулёвак прысуду.

Саўчанка правяла паўтара года ў расійскай турме — у пачатку ліпеня 2014 яна трапіла ў палон да баевікоў, якія вывезлі яе ў Расію. Прапаганда ж цынічна сцвярджала, што яна перайшла мяжу сама «пад выглядам уцякачкі без дакументаў». За незаконнае перасячэнне мяжы яе таксама судзілі.

Ад украінкі хацелі, каб яна пакаялася і абвінаваціла ўласную краіну. Яна ж не паддалася: прыходзіла ў суд у вышыванцы, трымала доўгія галадоўкі.

Яна не раз абыгрывала расійскую прапаганду. Так, луганскі святар Марэцкі заявіў у тэлеэфіры, што Саўчанка хацела здаць яго на органы, але адвакаты даказалі, што ў дзень, калі гэта «адбывалася», лётчыца і святар былі ў розных гарадах.

Гісторыя Саўчанка выклікала хвалю салідарнасці ў свеце. Акцыі ў яе падтрымку прайшлі ў Беларусі і нават у самой Расіі.

**Сяргей Мікулевіч**



## Святлана Алексіевіч пра прысуд Надзеі Саўчанка: Гэта вар'яцтва ўлады

Лаўрэатка Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч пракаментавала прысуд Надзеі Саўчанка.

«Гэта ўжо не проста злачынства ўлады, гэта нейкае вар'яцтва ўлады, якая ўжо знаходзіцца ў нейкім экстазе ад сваіх магчымасцяў і ад сваёй беспакаранасці. Бо ўсім жа відавочна, што гэта палітычны працэс, які не мае пад сабой ніякіх падстаў. Што судзяць не Надзею Саўчанка, а судзяць Украіну. Украіне хочуць паказаць, свету хочуць паказаць, што, маўляў, ніхто нам не ўказ. Але ўсё гэта нагадвае нейкую агонію. Бо палітыка ўсё ж, як бы там ні было, гэта разумныя дзеянні ў пэўнай ступені. А гэта ўсё нават не разумна.

Мы ўсе захопленыя мужнасцю Надзеі, мы ўсе яе не пакінем і будзем далей за яе змагацца. І ўсё-ткі я спадзяюся, што мы пераможам. Ну не могуць жа яны быць мацнейшыя за ўсіх нас».



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Раней Святлана Алексіевіч і яшчэ амаль 300 дзеячаў навукі, культуры, бізнэсу з усяго свету падпісалі зварот у абарону Надзеі Саўчанка. У звароце яны заклікаюць еўрапейскіх лідараў «прыняць надзвычайныя меры з мэтай неадкладнага і безумоўнага вызвалення» Надзеі Саўчанка.

**Радыё «Свабода»**

# Чыж у СІЗА, а Баскін выйшаў пад хатні арышт

Курыны магнат здолеў **дамовіцца з уладамі.**

Кіраўнік групы кампаній «Трайпл» Юрый Чыж, затрыманы 11 сакавіка, застаецца за кратамі. Яму ўжо выстаўлена абвінавачанне ва ўхіленні ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры. Гэты артыкул Крымінальнага кодэкса прадугледжвае да 7 гадоў зняволення.

Чыж забараніў адвакатам каментаваць у СМІ абставіны крымінальнай справы, таму да грамадскасці даходзіць толькі абрывістая інфармацыя.

### Дзеці за бацьку

Як стала вядома «Нашай Ніве», у рамках расследавання 14 сакавіка 2016 года Камітэтам дзяржаўнай бяспекі была вынесена пастанова аб накладанні арышту на маёмасць Чыжа.

Паводле яе, арыштаваная ўся нерухомасць, якой валодаў Юрый Чыж, у тым ліку дом у Драздах, а таксама рэзідэнцыя ў катэджным пасёлку «Лагожаск» пад Лагойскам.

Гэта звычайная практыка, якая прымяняецца на час расследавання. Аднак у сітуацыі з Чыжом сілавікі дзейнічалі яшчэ больш рашуча. Паводле той самай пастановы, арыштаваная ўся нерухомасць, зарэгістраваная на членаў сям'і апальнага мільянера (адзначым, што ўсе яны паўналетнія). Гэта ўнікальны выпадак для Беларусі.

Жонка, Святлана Чыж, мела свой катэдж у «Лагожаску». Ён арыштаваны.

У дачкі Тацціны арыштаваны яшчэ адзін катэдж у «Лагожаску», а таксама пяціпакаёвыя апартаменты ў знакамітым доме на Старажоўскай, у так званым «доме Чыжа».

Нарэшце, накладзены арышт і на палову катэджа ў Зацані, якая належыць Сяргею Чыжу, старэйшаму сыну бізнэсоўца. Другая палова дома некалькі месяцаў таму была прададзеная пенсіянерцы з Берасцейшчыны. Яна не каментуе крымінальнай справы, звязанай з суседзямі.



Яўген Баскін.
ВАЛЯНЦІН МІХАЛЬЦОЎ, TUT.BY
Недабудаваная рэзідэнцыя Чыжа пад Лагойскам таксама арыштавана.

### Баскін расплаціўся?

Тым часам уладальнік групы кампаній «Сэрвалюкс», найбуйнейшага ў краіне вытворцы мяса птушкі, Яўген Баскін правёў у СІЗА КДБ толькі адзін тыдзень. Шосты нумар у рэйтынгу самых паспяховых і ўплывовых бізнэсменаў Беларусі выйшаў пад хатні арышт. Прэс-служба патлумачыла гэта «наноў адкрытымі акалічнасцямі». Баскін не стаў каментаваць умовы свайго выхаду на свабоду.

Нагадаем, па словах старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка, шкода ад супрацпраўнай дзейнасці кіраўніцтва «Сэрвалюкса» склала не менш за 370 мільярдаў рублёў. Гэта каля $18,3 мільёна па цяперашнім курсе.

**Ягор Марціновіч**

**Меркаванне**

# Планета рабоў і планета людзей

Піша Ірына Халіп.



Сваякі Яўгена Баскіна пасля яго арышту звярнуліся да магілёўскіх праваабаронцаў: дапамажыце, маўляў, знайсці адваката.

Ну добра, не будзем здзіўляцца таму, што чалавек, на якога працаваў цэлы штат юрыстаў-гаспадарнікаў, не змог абзавесціся яшчэ і адвакатам па крымінальных справах. Я лепш распавяду іншую гісторыю пра Баскіна. Таксама красамоўную.

Пяць гадоў таму да магілёўскага алігарха звярнуліся тамтэйшыя актывісты. Прычым не нейкія невядомыя-незразумелыя, а яго даўнія знаёмыя яшчэ з інстытуцкіх часоў. У іх не хапала грошай для завяршэння палітычнага праекта. Збіралі ўсім светам — і сабралі амаль усю суму. Не хапала двухсот даляраў. Двухсот. Усяго толькі. Баскін гарбатай напаіў, сітуацыю выслухаў уважліва. І сказаў рашучае «не», забяспечыўшы яго жалезным аргументам: «У вас сваё вяселле, у нас — сваё». (Цікава, а што б падумалі сваякі Баскіна, калі б праваабаронца Барыс Бухель, да якога яны звярнуліся ў пошуках адваката, адказаў бы ім: «У нас сваё вяселле, у вас — сваё»? Зрэшты, усё роўна, мы такіх фраз не гаворым.)

Гэта значыць, для паспяховага бізнэсмена нейкія апазіцыянеры, якія рызыкуюць свабодай і жыццём дзеля нейкіх абстрактных паняццяў — «свабода», «дэмакратыя», «правы чалавека» — былі чымсьці накшталт марсіянаў.

Незразумелыя істоты з іншай планеты з зялёнай крывёю і галавой на шрубах. З той планеты, на якой ёсць дыктатуры, рэпрэсіі, выкраданні і забойствы, вымушаная эміграцыя, судовае самавольства, катаванні ў турмах. А на яго, Баскіна, планеце жылі ўпэўненыя ў заўтрашнім дні паспяховыя румяныя дзядзькі, якім ніколі нічога не пагражала. Таму што ў іх былі не толькі вялікія грошы, але яшчэ і нефармальныя адносіны, якія пры размаху ўяўлення можна было палічыць сяброўствам, — з Лукашэнкам і сынамі, міністрамі і віцэ-прэм'ерамі, губернатарамі і мэрамі. І дах у іх быў адпаведны — не проста які-небудзь дробны гэбэшны опер, а толькі вышэйшае, адборнае, надзеленае бязмежнай уладай кіраўніцтва. Яны капалі бульбу з гэтымі «дахамі» і бегалі за імі на лыжах, лісліва трымаючыся на паўкорпуса ззаду, каб не парушаць правілы гульні. Іх планета здавалася такой надзейнай, чысценькай, стабільнай, з рушачкамі і банцікамі — і раптам выбухнула к д'яблу, не пакінуўшы нічога, акрамя здзіўлення: як гэта магло здарыцца, калі яшчэ ўчора ўсё было выдатна? І нават тады не разумелі, што жывуць на планеце рабоў.

Яны заўсёды лічылі, што ў краіне ўсё выдатна, а тыя, хто выходзіць на вуліцы абараняць свае правы, хто абараняе чужыя правы, хто працуе ў падпольных СМІ, хто друкуе і распаўсюджвае ўлёткі, хто аб'яўляе галадоўкі пратэсту, — нейкія маргіналы. Тыя, хто не можа грошай зарабіць. Таму што нармальным пацанам тут добра жывецца. А каму дрэнна — тыя самі вінаватыя.

Потым яны доўга не могуць зразумець, куды падзелася гэтая іх цудоўная планета рабоў з цішынёй і спакоем, цыгарнымі клубамі і палётнымі лістамі, пасяджэннямі ў спартыўных федэрацыях і капаннем бульбы ў таварыстве найвышэйшай службовай асобы.

Памятаю, як актывістка «Еўрапейскай Беларусі» Юлія Сцяпанава распавядала пра свае сустрэчы з жонкай арыштаванага ўладальніка «Данькоў-клуба». Тая шчыра дзівілася, куды дзеліся шматлікія высокапастаўленыя сябры, чаму ўсе іх кінулі, варта было бразнуць замку ў камеры. Яе здзіўленне зразумелае: бо ўсе гэтыя людзі, ад такіх жа бізнэсменаў да чыноўнікаў і «крышуючых» сілавікоў, забаўляліся ў казіно і начным клубе Данькова, ды яшчэ і з тымі самым дзяўчатамі, якіх потым змушалі сведчыць у судзе. Вядома, Юрый Данькоў — фігура драбнейшая, чым Чыж з Баскіным, але ён таксама жыў на іх планеце і думаў, што які-небудзь гэбэшны начальнік, які заходзіць раз у тыдзень пазабаўляцца, дакладна не дасць прапасці. Ва ўсіх насельнікаў гэтай планеты здзіўленне пасля арышту нашмат мацней за абурэнне: няўжо гэта са мной адбываецца? Як жа так — я ж свой, я такі ж, я ж не з тых! Мы ж разам у Драздах у лазні парыліся...

Гэта для іх — галоўнае. Ім здаецца, што сувязь з Драздамі — ахоўная грамата. Не выкананне законаў, не выплата падаткаў, не сумленны бізнэс — толькі Дразды і блізкі да іх «дах». Таму кожны раз, калі садзяцца, — дзівяцца: са мной такога не магло здарыцца!

Цяжка ўявіць сабе, як які-небудзь багаты літовец — дапусцім, уладальнік *Maxima* Нумавічус — капае бульбу з Даляй Грыбаўскайце, каб адчуваць сябе няўразлівым. А потым у Еўропе пачынаецца эканамічны крызіс, і Даля Грыбаўскайце вырашае пасадзіць Нумавічуса. Ён едзе ў бок беларускай мяжы з хуткасцю 220 кіламетраў у гадзіну, але літоўская паліцыя сумесна з дэпартаментам аховы краю і ацалелымі з вайны ляснымі братамі ўводзяць план «Перахоп» і дастаўляюць бізнэсмена ў Лукішкі. Абсурд? Для Літвы або любой іншай еўрапейскай краіны, вядома, абсурд. Для нас — нармальна. І для Расіі, дарэчы, таксама. Саюзнікі па сацыялістычнай Еўразіі адзін аднаго заўсёды разумеюць. Еўрапейскае грамадства — ніколі.

Можна, вядома, фантазіраваць і далей. Кіраўнік канцэрна «Мерсэдэс» збірае ячмень для баварскага піва з Меркель, а потым бяжыць у бок бліжэйшага порта, каб даплысці да Калінінграда. Уладальнік *Zara* Амансія Артэга збірае маіс з прэм'ер-міністрам Іспаніі і бяжыць праз Атлантыку ў бок Кубы, заціснуўшы ў зубах мачэтэ, каб абараняцца ад акул. Зрэшты, узровень абсурду і так зразумелы. Ні таму, ні другому, ні трэцяму, ні яшчэ сотням тысяч не трэба перад тэлекамерамі займацца сельгаспрацамі з кіраўнікамі дзяржаў, каб атрымаць ахоўную грамату. Таму што ў Еўропе адзіная пажыццёвая ахоўная грамата — гэта сумленны празрысты бізнэс. І ніякіх лішніх рухаў цела, ніякіх рыдлёвак і клюшак. Гэта называецца — планета людзей.

А ў нас поспех у бізнэсе дасягаецца праз бульбакапалку, клюшку, рыдлёўку, лыжы. І з выразнай мяжой паміж тымі, з кім дазволена размаўляць, і ўсімі астатнімі.

І калі ў інтэрнэце абмяркоўваюць, ці шкада Чыжа і Баскіна, магу сказаць з упэўненасцю: не шкада. Няма ні шкадавання, ні зласлівасці — наогул нічога.

Таму што іх чысценькая стабільная планета, асобная ад Беларусі, выбухнула, як «Чэленджар», і на яе месцы ўтварылася пустэча. Вакуум. Космас. А ў космасе няма ні шкадавання, ні зларадасці. Ні мінулага, ні будучыні. Там нават бульба не расце, а хакейная клюшка завісае ў прасторы — і ўжо не нанесці ўдару.

**Паводле: Ірына Халіп, Хартыя'97**

# Квадратны метр у Мінску патаннеў да $1150

У абласных цэнтрах гаспадары просяць **$650–850 за метр.**

На рынку нерухомасці працягваецца крызіс. Росту эканомікі, як і росту дабрабыту, на даляглядзе не відаць, а значыцца, цэны падаюць штотыдзень.

Пры гэтым колькасць жылля, выстаўленага на продаж, знаходзіцца на гістарычным максімуме — адначасова каля 10 тысяч кватэр.

Паводле дадзеных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, за год цана квадратнага метра ў Мінску зменшылася з $1500 да $1150. Гэта значыць, сярэдняя двухпакаёўка патаннела на $17,5 тысячы.

Што да кватэр па колькасці пакояў, цэны ў лютым спыніліся на наступным узроўні:

Аднапакаёўкі — 1209 $/м²;
Двухпакаёўкі — 1132 $/м²;
Трохпакаёўкі — 1076 $/м²;
Чатырохпакаёўкі — 1110 $/м².

**За год сярэдняя двухпакаёўка ў Мінску патаннела на $17,5 тысячы**

Гэта дадзеныя рэальных угодаў. Цана прапановы традыцыйна вышэйшая. Розніца складае каля $100 за квадратны метр, бо гаспадары па-ранейшаму не хочуць зніжаць цэны ўслед за сітуацыяй на рынку.

Па стане на канец сакавіка цана прапановы ў Мінску складала каля $1200.

Ягор Марціновіч

**Колькі каштуе жыллё ў абласных цэнтрах?**

| Горад | $/м² |
|---|---|
| Брэст | 843 |
| Гродна | 811 |
| Гомель | 689 |
| Віцебск | 660 |
| Магілёў | 648 |

## Камуналку за люты можна заплаціць да 5 красавіка

Па стане на аўторак спецыялісты Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі працягваюць пераразлічваць камунальныя плацяжы па новых тарыфах. Беларусы маюць атрымаць квітанцыі з новым абліччам. У іх будуць не толькі лічбы за люты, але і пераразлік за студзень. Праўда, абяцанае патаннення закране толькі тыя радкі, якія і так былі недарагімі, напрыклад водазабеспячэнне.

«Грамадзяне будуць мець права да 5 красавіка аплаціць суму без штрафаў за пратэрміноўку, бо гэта не па віне чалавека, а па абгрунтаваных прычынах», — запэўніў міністр ЖКГ Аляксандр Церахаў.

ЯМ

## Лукашэнка: Я прыхільнік павышэння пенсіі на 3 гады

Прыехаўшы на «Камунарку», кіраўнік краіны выказаў пазіцыю што да пенсійнай рэформы. Ён выступае за тое, каб жанчыны выходзілі на пенсію ў 58 гадоў, а мужчыны — у 63 гады.

«Я схіляюся да таго, што мы павінны ісці паступова і акуратна, — заявіў Лукашэнка. — Я прыхільнік таго, каб пенсійны ўзрост павысіць на 3 гады, кожны год па палове. І так мы спакойна, за шэсць-сем гадоў, зможам прайсці гэтыя тры гады».

ЯМ

**Памер сярэдняй пенсіі па ўзросце ў лютым — 2 904 142 рублі. За месяц яна вырасла на 6 тыс.**

## «Галоўныя ворагі грошай — сабакі і дзеці!»

Што рабіць, калі сабака пагрыз 4 мільёны рублёў?

У незвычайную сітуацыю трапіў наш чытач з Мінска Віталь Несцераў. Ягоны сабака залез у пакінутую на падлозе сумку, у якой ляжаў канверт з грашыма — чатырма мільёнамі рублёў купюрамі па дзвесце тысяч.

Як выявілася, сабака весела прабавіў час. Калі гаспадар вярнуўся дахаты, ад рублёў засталіся толькі шматкі...

«Калі б не памятаў, колькі дакладна грошай ляжала ў канверце, ніколі б не паверыў, што такое магчыма. Бо раскіданых па падлозе шматкоў было, мякка кажучы, нямнога», — узгадвае Віталь.

Ён сабраў рэшткі грошай і стаў збіраць з іх «мазаіку». «На сайце Нацбанка сказана, што, калі захавалася 55% ад старой купюры, можна памяняць грошы на новыя. Прычым неабавязкова, каб захавалася цэльным кавалкам. Можна і некалькі шматкоў, але каб яны адназначна належалі пэўнай купюры. І якраз з гэтым была праблема. Вось ёсць у мяне сярэдняя частка банкноты, а краі, на якіх надрукаваны нумар, не засталіся. І ўсё, такі кавалак можна толькі на сметніцу. Карацей, як змог, разабраў рэшткі і адправіўся на абмен», — тлумачыць Віталь. Ехаць трэба ў касы Нацбанка, якія знаходзяцца ў Мінску ў будынку на вуліцы Талстога, 6.

«Касірка, як пабачыла шматкі, схапілася за галаву. Аказалася, літаральна ўчора яна тры гадзіны разбірала падобны набор кавалкаў. Прыйшлі падзівіцца і работніцы з суседніх вокнаў, — расказвае Віталь. — Усе, вядома ж, цікавіліся, хто так папсаваў грошы. Адна з работніц прызналася: «Нашы галоўныя «ворагі» — сабакі і дзеці». І яшчэ досыць часта прыносяць грошы, якія прайшлі выпрабаванне пральнай машынай».

Па яго словах, працэдура праверкі простая. У касірак ляжаць спецыяльны разлінеены аркуш паперы. Да яго трэба прыкласці рэшткі купюры, абвесці абрыс, а пасля пералічыць, колькі квадрацікаў замалявана. Так вызначаецца, ці захаваліся патрэбныя 55%. Інструкцыя строгая, таму задобрыць касірку наўрад ці атрымаецца.

«У выніку мне выдалі на рукі 1,4 мільёна — то бок толькі 7 з 20 купюр захаваліся ў дапушчальным стане, — кажа Віталь. — Рэшткі грошай, якія не прайшлі праверку, вяртаюць гаспадарам, але ніякай карысці ад іх няма».

...А што з сабакам? Дактары ў ветэрынарнай клініцы запэўнілі, што ў страўніку іншародных прадметаў няма. Грошы ў арганізме не пераварваюцца, значыцца, рублі выйшлі натуральным шляхам.

Браніслаў Юрэвіч



Рэшткі грошай, якія не ўдалося абмяняць на новыя.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Сцісла

**Глыбокі эканамічны спад працягваецца**

За студзень-люты валавы ўнутраны прадукт скараціўся на 4% у параўнанні з аналагічным перыядам 2015 года. Афіцыйны прагноз на 2016 год прадугледжвае рост ВУП на 0,3%. Прагноз уладаў быў падрыхтаваны з улікам таго, што сярэднегадавая цана нафты складзе $50 за бараль.

**МТС уводзіць штохвілінную тарыфікацыю**

Пачынаючы з 1 красавіка, аператар МТС на ўсіх тарыфных планах будзе лічыць званкі пахвілінна. Цяпер на большасці тарыфаў пасля першай хвіліны размовы прадугледжваецца пасекундная тарыфікацыя.

**Шакуцін купіў палову завода ў Пакістане**

Беларускі вытворца спецтэхнікі «Амкадор» падпісаў пратакол аб куплі 50% пакістанскай кампаніі *Fecto Belarus Tractors Limited*, якая выпускае трактары. У прадпрыемства плануецца інвеставаць каля $20 мільёнаў.

«Амкадор» належыць сенатару Аляксандру Шакуціну і наваполацкаму бізнэсмену Мікалаю Вераб'ю.

**Стаўка рэфінансавання зніжаецца да 24% гадавых**

Стаўка заставалася нязменнай больш за год, але з 1 красавіка яе памер зменшыцца з 25% да 24%. Услед сімвалічна апусцяцца стаўкі па крэдытах і дэпазітах. Такім чынам Нацбанк рэагуе на стабілізацыю на фінансавых рынках.

**«Хоўм Крэдыт Банк» спыняе абслугоўванне банкаўскіх карт**

Банк з чэшскім капіталам звярнуўся да кліентаў з просьбай вярнуць банкаўскія карткі. З 1 красавіка іх абслугоўванне будзе спынена. «Хоўм Крэдыт Банк» тлумачыць, што «змяняе бізнэс-мадэль» — з той самай прычыны закрытая палова аддзяленняў банка.

**Збанкрутавала кава «Матадор» і... «Святая Русь»**

Эканамічныя суды Беларусі разглядаюць дзясяткі справаў аб банкрутстве кампаній. Аб сваёй эканамічнай неплацежаздольнасці абвясціла некалі вядомая беларуская кампанія «Ікартайм» (першы беларускі кававы брэнд «Матадор»).

Апроч таго, грошы скончыліся ў часопіса «Святая Русь», зарэгістраванага ў Мінску.

**Мінгандлю пагражае «Еўраопту» за «шантаж»**

Найбуйнейшая беларуская гандлёвая сетка «Еўрагандаль» (крамы «Еўраопт») заявіла пра закрыццё некалькіх размеркавальных цэнтраў, якія займаліся дастаўкай тавараў, замоўленых спажыўцамі праз інтэрнэт. Маўляў, пакуль забаронена гандляваць у анлайне цыгарэтамі і алкаголем, праца нявыгадная. Міністэрства гандлю ў адказ заявіла, што дзеянні «Еўраопта» падобныя да «шантажу ўлады», і параіла лепш заняцца пагашэннем запазычанасцяў перад пастаўшчыкамі.

**Распрацаваная тканіна для айчынных джынсаў**

Тканіну будзе выабляць Аршанскі льнокамбінат пры ўдзеле Баранавіцкага вытворчага баваўнянага аб'яднання. Старшыня «Беллегпрама» Мікалай Яфімчык пахваліўся, што беларусы змогуць насіць сумесь баваўны і лёну са спецыяльным аздабленнем, як у славутага джынсавага брэнда «Леві Страўс».

ЯМ

# Упершыню за доўгі час на беларускай мове была абароненая дысертацыя па медыцыне

Аўтарам дысертацыі стаў 37-гадовы дзіцячы рэаніматолаг з Мінска **Андрэй Вітушка**.

Ён працуе ў Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры «Маці і дзіця», у яго 15-гадовы стаж работы.

Ягоная дысертацыя датычыла выяўлення прычын і прадухілення ўнутрычарапных крывязліццяў у неданошаных дзетак вагой ад 500 да 1500 грамаў.

Дысертацыйная рада прагаласавала «за» аднагалосна: усе 11 членаў.

Вітушка — выпускнік Беларускага медыцынскага ўніверсітэта. У часе вучобы ён быў адным з лідараў Задзіночання беларускіх студэнтаў.

Сям'я Вітушкаў актыўна займаецца і грамадскай дзейнасцю. Жонка Андрэя Крысціна, напрыклад, узначальвае апякунскую раду адной з беларускамоўных гімназій Мінска.

Незвычайнасць абароны дысертацыі Вітушкам у тым, што гэта адна з першых беларускамоўных абаронаў у медыцыне за доўгі час.

«Што да беларускай мовы, то першае здзіўленне навуковай рады перайшло ў павагу. Усе адзначылі высокі навуковы ўзровень, практычную значнасць і актуальнасць даследавання, тэма на вастрыні цікавасці спецыялістаў усяго свету, — адзначае сведка абароны. — Дарэчы, Андрэй паспяхова прэзентаваў свае доследы за мяжой і па-руску, і па-ангельску і па-нямецку, прывозіў узнагароды за найлепшы вынік і з Масквы, і з Зальцбурга, высокія адзнакі дысертацыі даслалі з Кіева, Санкт-Пецярбурга і іншых замежных навуковых цэнтраў».

«Наша Ніва» далучаецца да віншаванняў.

**Сяргей Гезгала,**
**фота facebook.com/kvitushka**



## Музыкант Лявон Вольскі збірае сродкі на выданне новага альбома

Вядомы беларускі музыкант апублікаваў зварот на сваім сайце *lavonvolski.com*



«Дарагія сяброўкі, шаноўныя сябры! Вельмі рэдка я звяртаўся да вас па дапамогу, але цяпер акурат такі момант, калі гэта неабходна, — гаворыцца ў звароце. — Альбом «Hramadaznaŭstva. Volski», мне падаецца, патрабуе працягу. І час гэтага працягу надышоў.

Ёсць усё: песні, задумы, крэатыў, віленская студыя Снорэ Бэргеруда. Няма толькі фінансавага складніку працэсу, кажучы наўпрост — грошай. Вось так здараецца — раней неяк знаходзіліся, а цяпер — ну ніяк.

Хто колькі можа, мы будзем удзячныя ўсім за любую дапамогу! Бо талака — вялікая сіла, з ейнай дапамогай можна і вёску збудаваць, і альбомам народ парадаваць. І гэта будзе наш з вамі агульны альбом, там будзе часцінка кожнага, хто дапамог у ягоным стварэнні.

Загадзя дзякую і спадзяюся на разуменне і дапамогу!»

## Распачаты працэс беатыфікацыі будаўніка Чырвонага касцёла Эдварда Вайніловіча

Працэс беатыфікацыі Эдварда Вайніловіча пачнецца ў гэтым годзе, паведаміў журналістам мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч.

Пра тое, што 10 красавіка ў Чырвоным касцёле пройдзе ўрачыстасць з нагоды пачатку беатыфікацыі Эдварда Вайніловіча, сказаў у нядзелю, 20 сакавіка, падчас імшы і пробашч Уладзіслаў Завальнюк. Ён прывёў прыклад жыццёвага шляху Вайніловіча як узор дбайнага гаспадара, грамадзяніна і патрыёта.

Эдвард Вайніловіч (1847—1928) увайшоў у гісторыю як палітычны і грамадскі дзеяч. Быў ганаровым міравым суддзёй Слуцкага павета, членам Дзяржсавета Расіі ад Мінскай губерні, тройчы абіраўся ў Дзяржаўную думу і г.д. У 1910 годзе па яго ініцыятыве ў Мінску быў пабудаваны Чырвоны касцёл (касцёл Святых Сымона і Алены).

**БелТА**

## Прома-ролік «Заспявай 3.0» выклікаў непрыманне ў феміністак

Стваральнікаў відэа звінавацілі ў сэксуальнай аб'ектывацыі жанчынаў.

З вострай крытыкай роліка ў сацсетках выступіла Юлія Цімафеева. Паэтка і перакладчыца, вядомая сваімі феміністычнымі поглядамі, абурылася, што конкурс рэкламуюць з дапамогай мадэлі, і папракнула аўтараў відэа ў адсутнасці фантазіі. На яе думку, кліп гэты мог рэкламаваць стрыптыз-клуб ці жаночую бялізну, але аніяк не песеннапаэтычны конкурс.

Да яе меркавання далучыліся некаторыя іншыя асобы, у тым ліку філосаф Вольга Шпарага, якая выказала думку, што ў культуры, якая і так перапоўненая звядзеннем жанчынаў да голага цела, лепей пазбягаць такога прыёму.

Юлія Цімафеева кажа: «Якое дачыненне да песеннага конкурсу маюць маўклівыя паўаголеныя жанчыны, якія самлела-пажадліва глядзяць у аб'ектыў і гладзяць інструменты? Гэта стары і зацяганы штамп — выкарыстоўваюць жаночае цела для рэкламы любой прадукцыі. У беларускай музыцы дастаткова самастойных, яркіх і таленавітых жанчын-музыкаў і спявачак, якія ёсць не проста музамі, яны самі ствараюць добрую музыку і, мабыць, таксама хацелі б паўдзельнічаць у гэтым конкурсе, але, на жаль, атрымліваецца, што меседж гэтага кліпа скіраваны толькі на мужчынскую аўдыторыю».



Стваральнікі відэа не пагадзіліся з высунутымі «абвінавачваннямі». «Мы хацелі прыцягнуць увагу да конкурсу, зрабіць гэта ярка, прыгожа. Але пры гэтым нікога не абразіць і не прынізіць», — сказаў прадзюсар конкурсу Сяргей Будкін.

Рэжысёр роліка Арцём Лобач зазначыў, што яго ўсяго толькі прывабіла прыгожае спалучэнне формы жаночага цела ды віяланчэлі і падзякаваў удзельнікам дыскусіі за істотны фідбэк.

**Замест яго: Больш пра конкурс — на nn.by.**

**In memoriam**

## Сяргей Ханжанкоў — чалавек, які спрабаваў падарваць савецкую глушылку

Сяргей Ханжанкоў памёр у Мінску, пасля цяжкай хваробы, раніцай 16 сакавіка на 75-м годзе жыцця. Пра гэта паведаміла яго жонка Алена Скам'янава.

Ханжанкоў нарадзіўся 13 сакавіка 1942 года ў пасёлку Усць-Уціны Магаданскай вобласці ў сям'і палітзняволеных (бацька быў асуджаны ў 1935-м, дзед па матчынай лініі — у 1929-м). У 1955-м сям'і дазволілі вярнуцца ў Менск.

З 1959-га Сяргей Ханжанкоў — студэнт гідратэхнічнага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута.



27 мая 1963 года яго і ягоных сяброў арыштавалі савецкія спецорганы. 7 кастрычніка таго ж года засудзілі за «спробу зрабіць дыверсію» і «антысавецкую агітацыю і прапаганду» да 10 гадоў лагераў.

А рэч была ў тым, што з сябрамі Ханжанкоў хацеў узарваць мінскую вежу-глушылку. Неймаверная дзёрзкасць па тых часах! І гэта былі не проста словы. Яны нават здабылі выбухоўку. Але Ханжанкоў неасцярожна расказаў пра задуму былому аднакласніку, які аказаўся агентам...

Пасля вызвалення з лагераў у 1973-м Ханжанкоў вярнуўся ў Мінск. Працаваў інжынерам у Беларускім дзяржаўным інстытуце праектавання аўтадарог, на заводзе імя Кірава. Быў удзельнікам І-га з'езда палітзняволеных (жнівень 1990-га, Санкт-Пецярбург) і руху за незалежнасць Беларусі.

Не рэабілітаваны і рэабілітацыі ніколі не дамагаўся.

Пахаваць яго маюць каля ягоных бацькоў на сталічных Чыжоўскіх могілках на 9-ы дзень пасля смерці.

Дачка Вера Лях будзе ўспамінаць свайго бацьку як вельмі добрага, спагадлівага і далікатнага чалавека, які ніколі нікога не абразіў і да якога так падобны 10-гадовы ўнук Сяргея Мікалаевіча.

Ханжанкоў ніколі не шкадаваў, што 10 гадоў свайго маладога жыцця ён правёў за кратамі Мардоўскіх лагераў, бо там, паводле ягоных словаў, ён сустрэў тых людзей, каго ніколі не сустрэў бы на волі.

Ён нікога не павучаў, быў адкрытым, шчырым, добразычлівым, нешматслоўным і надзейным. А калі дадаць ягоную адукаванасць, сціпласць і цеплыню — дык паўстае вобраз сапраўднага беларуса-інтэлігента.

Інтэлігента, які, аднак, паўстаў на адкрытую барацьбу за свабоду.

**СГ**

# Кнігі, што прадаваліся на чарнасоценскай канферэнцыі ў Нацбібліятэцы, прызнаныя ў Беларусі экстрэмісцкімі

Газета «Звязда» апублікавала спіс забароненай у Беларусі літаратуры.

Апроч іншых кніг, там пазначаныя творы Алега Платонава — аднаго з хэдлайнераў чарнасоценскай канферэнцыі, што прайшла два тыдні таму ў Мінску.

«Таемны сусветны ўрад» — гэтая кніга з экстрэмісцкага спісу прадавалася наўпрост у Нацыянальнай бібліятэцы, не зважаючы на тое, што суд забараніў яе распаўсюд у Беларусі яшчэ ў 2008 годзе.

Таксама экстрэмісцкімі значацца яшчэ тры творы гэтага ж аўтара: «Таямніцы сіёнскіх пратаколаў», «Рускі супраціў» і «Вайна з унутраным ворагам».

Варта адзначыць, што кніга «Сіёнскія пратаколы ў сусветнай палітыцы», якая таксама прадавалася ў Мінску, адсутнічае ва ўсіх бібліяграфіях чарнасоценца і па сваім змесце вельмі нагадвае забароненую «Таямніцу сіёнскіх пратаколаў».

Выглядае, што змянілася толькі форма — кнігу, найхутчэй, перавыдалі пад іншай назвай, каб пазбегнуць адказнасці.



У нас не атрымалася дазваніцца да кіраўніцтва Нацыянальнай бібліятэкі, дзе расійскія чарнасоценцы арганізавалі канферэнцыю і збыт забароненай літаратуры.

Ужо колькі дзён з розных прычын (нарады, заняткі) не атрымліваецца пагаварыць і з кіраўніцтвам філфака БДУ, дзе гэтага імперца прадставілі як «вядомага пісьменніка» і арганізавалі з ім сустрэчу.

АГ




# «Як пачаў, то мікрафона ўжо не выключыш»: у Акадэміі навук тлумачаць, чаму запрасілі з лекцыяй чарнасоценца Бабурына

«Наша Ніва» пісала, што 11—13 сакавіка ў Мінску прайшла «навуковая канферэнцыя» «Сусветны лад — супрацьвага сусветнаму панаванню».

Ад Расіі яе арганізоўвалі «Міжнародная славянская акадэмія» і «Усеславянскі саюз». Ад Беларусі арганізатарам стала грамадскае аб'яднанне «Русь», якое існуе ў шчыльным кантакце з «Рассупрацоўніцтвам».

На канферэнцыю сабраліся расійскія чарнасоценцы, але разам з імі выступалі некаторыя супрацоўнікі Акадэміі навук Беларусі.

Адзін з хэдлайнераў гэтай канферэнцыі, расійскі палітык імперскіх поглядаў Сяргей Бабурын, у пятніцу выступіў з лекцыяй пра «еўразійскую інтэграцыю» ў актавай зале прэзідыума Акадэміі навук.

Мы звярнуліся ў НАН з пытаннем, навошта туды запрашалі арганізатара «рускіх маршаў» у якасці спікера.

«У нас дэмакратычная структура, і ў нас выступаюць людзі з рознымі поглядамі і меркаваннямі, — сказала прэс-сакратарка НАН Наталля Марцалева. — У нас тут, у зале прэзідыума, і пра пінгвінаў палярнікі дзецям расказваюць, і пры канцы мінулага года была лекцыя пра чорныя дзіркі, што людзі ў калідоры слухалі — месцаў не было. Калі мы запрашаем лектара і ён пачынае штосьці казаць, мы ж не можам яму забараняць, выключаць мікрафон».

«І лекцыя Бабурына прайшла не ў кантэксце той канферэнцыі, пра якую вы пішаце. І Акадэмія навук яе [канферэнцыю] не арганізоўвала. Бабурын выступаў па запрашэнні Інстытута падрыхтоўкі навуковых кадраў. З кімсьці ён там знаёмы, яго проста запрасілі выступіць з лекцыяй, вось і ўсё. Лепш звяртайцеся туды», — сказала Наталля і трохі дадала пра саму канферэнцыю, прысвечаную «рускаму ладу».

«А наконт шарлатанаў і гэтак далей я хачу адно сказаць. Ну на ўсіх жа можна ярлыкі навешаць. З той «наасферай» Нікіценкі — ён прыхільнік тэорыі Вярнадскага, выступае на буйных міжнародных форумах па гэтай тэматыцы. Але зноў жа, у многіх навукоўцаў неадназначнае стаўленне да тэорыі наасферы. А Бабосаў — вядомы наш сацыёлаг, але выступае і па геапалітычных пытаннях. Я так думаю, што навукоўцаў проста запрасілі, і яны не тое каб падтрымліваюць нейкія там шавіністычныя погляды, а проста выступілі па сваёй праблематыцы, дзе яны эксперты. Іх запрасілі — яны прыйшлі, вось як. Яны ж акадэмікі і вольныя хадзіць куды хочуць, яны не ўзгадняюць з намі. Гэта іх прыватная пазіцыя», — сказала прэс-сакратарка.

Мы датэлефанаваліся і ў Інстытут падрыхтоўкі навуковых кадраў пры Акадэміі навук. Яго рэктар Валерый Бельскі пацвердзіў, што Бабурына запрасілі менавіта яны.

«Так атрымалася, што ў нас дзейнічае лекцыйны клуб, і мы даведаліся, што Бабурын у Беларусі. Мы яго ведаем найперш як навукоўца, яго палітычныя погляды цікавыя нам у меншай ступені. А ягоны неардынарны погляд на палітычную сітуацыю цяжка падзяляць у поўнай меры. Але некаторыя сказаныя ім рэчы былі спазнавачыя», — сказаў Валерый Бельскі і запэўніў, што на трыбуну НАН Бабурына прывяла не ягоная палітычная пазіцыя.

«І я не пагаджуся, — дадаў рэктар, — што ў нас высадзіўся цэлы дэсант чарнасоценцаў, як вы пішаце. У прынцыпе, толькі адзін Бабурын у нас і выступаў. Я там прысутнічаў, і мне падалося, што ён карэктна выказваў сваё меркаванне. Здавалася, ён уяўляў, дзе знаходзіцца, і ягоная, у тым ліку палітычная, пазіцыя была асцярожна выказана, каб не закрануць палітычныя і дзяржаўныя погляды прысутных у зале».

«Ён у большай ступені проста разважаў на палітычныя тэмы, а не заклікаў да чагосьці. Зрэшты, гэта былы дэпутат, тройчы дэпутат, цяжка чакаць, што ў яго не будзе сваіх палітычных поглядаў. Але ж вы бачыце, што яны не вельмі папулярныя, калі ў дадзены момант Бабурын не дэпутат. Ды і аншлагу ў нас не было, не ўсе ягоныя тэзісы знайшлі, так бы мовіць, водгук у сэрцах прысутных. Што паробіш, калі адныя бачаць у Еўропе толькі геяў, а іншыя — толькі высокі культурны ўзровень. Такое жыццё», — падсумаваў навуковец і дадаў, што яны і надалей плануюць запрашаць розных лектараў.

Маўляў, наступным будзе эканаміст з Ізраіля, прозвішча пакуль трымаюць у сакрэце.

**Арцём Гарбацэвіч**

## У МУС стварылі сакрэтную роту для барацьбы з незаконнымі ўзброенымі фарміраваннямі

Год таму па ініцыятыве МУС была створана рота забеспячэння спецыяльных аперацый. Доўгі час інфармацыя аб ёй заставалася таямніцай.

Спецпадраздзяленне было створана па ініцыятыве намесніка міністра ўнутраных спраў — камандуючага Унутранымі войскамі генерал-маёра Юрыя Караева «для ўзмацнення баяздольнасці». Рота размяшчаецца на базе вайсковай часткі 3214 у сталічным раёне Уручча.

Байцы гэтай роты «могуць выязджаць у любы раён краіны для пошуку незаконных узброеных фарміраванняў, барацьбы з дыверсійна-разведвальнымі групамі праціўніка, пошуку ўцеклых асуджаных, спынення масавых беспарадкаў».

«У першую чаргу звяртаем увагу на фізічную падрыхтоўку і маральна-дзелавыя якасці кандыдатаў, гутарым з іх камандзірамі», — расказаў камандзір роты старшы лейтэнант Цімур Грышко.

У складзе спецроты двухразовы чэмпіён свету па К-1 Генадзь Варакса і чэмпіён Еўропы па фрыфайце Дзмітрый Собалеў.

У спецроце на занятки па баявой падрыхтоўцы адведзена ў паўтара раза больш гадзін, чым у іншых падраздзяленнях, распрацаваная адмысловая праграма, у аснове якой — досвед байцоў атрада хуткага рэагавання і роты разведкі.

Нядаўна на адным з палігонаў МНС разам з асабовым складам адпрацоўваліся дзеянні ў экстрэмальных сітуацыях.

«Калі ў іншых падраздзяленнях праводзяцца агульныя заняткі для снайпераў, гранатамётчыкаў і кулямётчыкаў, то ў спецроце для кожнага спецыяліста свой курс навучання», — дадае намеснік камандзіра роты па ідэалагічнай рабоце старшы лейтэнант Ілля Кудрын. — <...> Асабовы склад могуць прыцягваць падчас сумесных аперацый з рознымі сілавымі структурамі для аказання ім агнявой падтрымкі».

Сімвалам новай роты выбралі ястраба. «Нашы кулямётчыкі і снайперы працуюць на далёкіх дыстанцыях, не маючы блізкага дотыку з ворагам. Ястраб гэтак жа, як і мы, пачынае сваё паляванне здалёку і, імкліва збліжаючыся, перамагае ахвяру», — тлумачыць Цімур Грышко.

інф. «На страже»



# Чаму «Зверапаліс» — вельмі добры мультфільм

Абсалютным лідарам у Беларусі па пракаце мультфільмаў за ўсе часы стала стужка «Зверапаліс». У свеце ён таксама мае немалы поспех, яшчэ ніводная анімацыя «Дыснэя» не стартавала настолькі добра.

Сюжэт мультфільма просты. Зверапаліс — гэта ідэальны горад у жывёльным свеце, дзе разам ужываюцца прадстаўнікі ўсіх відаў. Тыя, хто звыкся да пустыні, і тыя, хто любіць Арктыку, жырафы і буразубкі, траваедныя і драпежнікі. Звяры жывуць у згодзе, а горад квітнее.



Трусіха Джудзі Хоўп з невялікага гарадка Малыя Норкі з дзяцінства марыць стаць паліцыянтам, але да яе яшчэ ніводны трус не станавіўся дэтэктывам паліцыі. Гэта праца для буйных жывёл — быкоў, ільвоў, кракадзілаў. З першых дзён у паліцыі Джудзі сутыкаецца з дыскрымінацыяй. Замест расследавання сур'ёзных злачынстваў яе адпраўляць штрафаваць кіроўцаў за няправільную паркоўку.

Аднак у выніку Джудзі ўдаецца атрымаць сапраўды цікавую справу, якая будзе мець нечаканыя наступствы. У расследаванні ёй дапамагае дробны жулік, ліс Нік Уайльд. На лісіц у Зверапалісе ўвогуле глядзяць як на цалкам страчаных для грамадства элементаў. Бо ўсе лісы — манюкі, махляры і шарлатаны. Ніводзін нармальны звер не будзе мець справы з лісам.

Амерыканскія мульцікі апошніх гадоў не проста расказваюць цікавую, яркую гісторыю, але вучаць дзяцей базавым прынцыпам дэмакратыі і правоў чалавека. «Зверапаліс» вучыць, што кожны, незалежна ад росту, сілы, полу, месца нараджэння, можа дасягаць поспехаў у любой сферы. Хоць асяроддзе можа варожа ставіцца да такіх ініцыятыў.

А яшчэ «Зверапаліс» паказвае, што прадстаўнікоў адной групы нельга судзіць толькі за іх паходжанне. Цікавая сцэна, калі траваедныя жыхары «Зверапаліса» дрыжаць у метро, калі побач з імі едзе драпежнік. Шмат у чым нагадвае гісторыю вакол мусульман.

Дарэчы, галоўным злодзеем у мульціку аказваецца не нехта з ікламі і кіпцюрамі, а той, у каго самая белая і пухнатая поўсць.

Але дзецям зусім не абавязкова бачыць у мультфільме гэтыя алюзіі з сённяшнім часам, ён проста зачэпіць захапляльным сюжэтам. «Зверапаліс» будзе даспадобы ўсім: і дзецям, і дарослым.

**Зміцер Панкавец**




У Гомелі на конкурсе цырульнікаў маладому чалавеку зрабілі вышыванку проста на галаве.

## Кандрусевіч: Сёння візіт Папы ў Беларусь бліжэйшы, чым калі-небудзь раней

22 сакавіка ў Мінску адбылася вялікодная прэс-канферэнцыя арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, які, у прыватнасці, пракаментаваў магчымасць візіту ў Беларусь Папы Рымскага.

«Цяпер спрыяльны клімат для таго, каб Папа прыехаў у Беларусь. Неабходнае запрашэнне прэзідэнта, запрашэнне Канферэнцыі біскупаў, а таксама негалосная згода Праваслаўнай царквы. Гэта такое няпісанае правіла. Папа ніколі не ездзіць без узгаднення ў краіну, дзе большасць адносіцца да іншага веравызнання, не каталіцкага. Гэты візіт павінен цэментаваць грамадства, а не ўбіваць клін у гэтыя адносіны. Гэтыя адносіны сёння паляпшаюцца. Я перакананы, што сёння візіт Папы бліжэйшы, чым калі-небудзь раней. Аднак неабходна выканаць гэтыя ўмовы», — сказаў Кандрусевіч.

Што пішуць

## «Скажыце, што прыбраць, — я прыбяру»



Піша **Кастусь Шыталь**.

Кажуць жа, што «сапраўднае жыццё пачынаецца за МКАДам», дык з'ездзіў я днямі за МКАД на тое сапраўднае жыццё паглядзець.

Зайшоў у кнігарню «Цэнтральная», думаў «Время секонд-хэнд» Святланы Алексіевіч набыць. Сабе ўжо набыў, а цяпер хачу падараваць асобнік бібліятэцы ў Докшыцах.

«Время сэконд-хэнд» у кнігарні не было, затое сувеніры з савецкім гербам, сярпом-молатам ды патрэтам Леніна прадаваліся.

— А чаму гэта ў вас савецкая сімволіка прадаецца?

— А что? Эта жэ наша історія.

Папрасіў кнігу заўваг і прапаноў. Кіраўніца крамы прыбегла і прапанавала вырашыць пытанне. «Скажыце, што прыбраць, — я прыбяру». Але я падумаў, што разабрацца пісьмова будзе больш надзейна — напісаў прапанову, каб сувеніры з савецкай сімволікай знялі з рэалізацыі і болей не прадавалі ў кнігарні.

Вельмі непрыемна мне ўлазіць у такія канфлікты, спрачацца з людзьмі. Але грамадзянскі абавязак прымушае хоць бы раз-пораз спрабаваць ачысціць сваю краіну ад сімволікі зладзеяў.

Хто жыве за МКАДам, пагляздзіце, прыбралі ў «Цэнтральнай» сярпы-молаты ці не? Пакіньце запіс, калі яны з першага разу не зразумелі.

Метамарфозы

## Земфіра матам запатрабавала прыбраць сцяг Украіны на канцэрце ў Літве

Спявачка Земфіра абразіла фанатаў, якія ўздымалі ўкраінскі сцяг падчас яе канцэрту ў Літве 21 сакавіка, перадае Корреспондент.net. Яна некалькі разоў патрабавала прыбраць сцяг, выкарыстоўваючы ненарматыўную лексіку. Пасля гэтага, па словах відавочцаў, многія сталі пакідаць выступ.

«Я жыхар Расіі. Мы знаходзімся ў Літве. Я прашу вас, я прашу вас, ***. Вы любіце сваю краіну, я люблю сваю краіну», — сказала Земфіра.

Земфіра выступае ў Прыбалтыцы ў рамках тура «Маленькі чалавек», які завершыцца канцэртамі ў Маскве 1 і 3 красавіка. Спявачка заявіла, што гэта апошні гастрольны тур у яе кар'еры.

3 ліпеня 2015 года Земфіра выступала на Tbilisi Open Air. Падчас выканання песні «Цікава, як ты там» яна ўзяла ў аднаго з гледачоў сцяг Украіны, размахвала ім, а потым прымацавала да мікрафона. Пасля гэтага ў Расіі на яе абрынуліся шавіністы.

Свет захапленняў

## Зрабіў жонцы падарунак: закаваў у кайданкі і скінуў з моста

21 сакавіка многія гарадзенцы бачылі незвычайную карціну: малады чалавек вёў па вуліцы дзяўчыну ў кайданках. Пасыпаліся званкі ў міліцыю: ці не гандляр гэта людзьмі? Ці не маньяк? Хлопца нават абвясцілі ў вышук, пра гэты выпадак напісалі СМІ. Але пасля гэты самы невядомы патэлефанаваў у міліцыю і расказаў пра падрабязнасці.

З яго слоў, такім чынам ён зрабіў сюрпрыз жонцы, у якой быў дзень нараджэння. Гэта была частка падарунка: пасля транспарціроўкі «ў бранзалетах» ён скінуў жонку з аднаго з мастоў горада. Не самастойна, а замовіўшы адпаведную паслугу на фірме, г.зн. па ўсіх правілах бяспекі. Кайданкі малады чалавек 1992-га года нараджэння набыў у краме «Паляўнічы і рыбалоў».

Каментуючы сітуацыю, міліцыя нагадвае, што варта быць абачлівымі пры планаванні свайго вольнага часу, які ўтрымлівае, у першую чаргу, элементы, што могуць быць неадназначна патлумачаныя грамадзянамі.

**Паводле uvd.grodno.by**

Спорт

## Алімпійскі чэмпіён Андрэй Арамнаў заявіў пра завяршэнне кар'еры

«Ужо амаль як год зусім не займаюся цяжкай атлетыкай. Перада мной паўстаў выбар: альбо стаць інвалідам, або кінуць займацца спортам і перайсці на трэнерскую пасаду. Справа ў тым, што я заўсёды хацеў перадолець планку чалавечых магчымасцяў. Імкнуўся да такіх рэкордаў, што ні адна жывая душа не падступіцца. З-за гэтага ў мяне яшчэ праблемы з перагрузкай арганізма. Плюс трэнеры пастаянна гналі наперад, таму што ад маіх вынікаў залежалі іх заробкі.




Я часта, быўшы стомленым, падводзіў сваё непадрыхтаванае цела да спаборніцтваў. Так, сваю неачунялую нагу я траўмаваў восем разоў. У выніку мышца сцягна не вытрымала. Я зрабіў МРТ. Мне паказалі, што адна галава ад чатырохгаловай мышцы на 50 адсоткаў адарваная. Для жыцця мне хапае такога стану. Для заняткаў прафесійным спортам — ні ў якім разе».

**By.tribuna.com**

# Ivan выступіць на «Еўрабачанні» голым і з ваўкамі?

На галоўнай сцэне Еўропы выканаўца Ivan прэзентуе песню Віктара Дробыша Help you fly.

Падапечны расійскага прадзюсара Віктара Дробыша спявак Аляксандр Іваноў (*Ivan*) рыхтуецца шакаваць гледачоў конкурсу «Еўрабачанне-2016», які адбудзецца ў Стакгольме з 10 па 14 мая, пішуць расійскія СМІ.

Паведамлялася, што галоўнай «фішкай» нумара выканаўцы стане яго выгляд і сапраўды дзікі антураж. Мала таго што Ivan выйдзе на галоўную сцэну Еўропы абсалютна голы, дык яшчэ і выведзе за сабой жывых ваўкоў.

Каб ажыццявіць задуманае, камандзе Аляксандра Іванова трэба будзе атрымаць спецыяльны дазвол, каб выкарыстоўваць драпежнікаў у сваім нумары. Па словах прадзюсара Дробыша, ён робіць усё магчымае, каб перамовы са шведскім бокам не зайшлі ў тупік: «Мы хочам, каб усе адчулі гэтую тонкую мяжу паміж чалавекам і прыродай».

Пасля таго, як інфармацыя і выявы голага *Ivana* трапілі ў СМІ, Дробыш скарэктаваў заяву і сказаў, што гэта — усяго толькі «адзін з вобразаў, якія мералі на артыста». А канчатковы вобраз прадстаўніка Беларусі на сцэне «Еўрабачання-2016» будзе ўзгадняцца з Белтэлерадыёкампаніяй і Еўрапейскім вяшчальным саюзам.





**У інтэрнэце весела абмяркоўваюць фота беларуса, які набіў сабе на грудзях тату з беларускім дзяржаўным гербам і надпісам гатычным шрыфтам: «З намі Бог».**

## СК вярнуў збітаму журналісту Дабравольскаму тэлефон, але замест Android 6.0.1 на ім быў усталяваны 5.1.1

«Следчы камітэт вярнуў мой смартфон», — паведаміў у сваім фэйсбуку журналіст *Tut.by* Павел Дабравольскі.

Нагадаем, 25 студзеня яго затрымалі ў будынку суда Фрунзенскага раёна падчас працэсу над графіцістамі, збілі, а потым яшчэ і аштрафавалі за нібыта непадпарадкаванне міліцыі і дробнае хуліганства, а касацыйную скаргу суд не задаволіў.

«Абяцаныя два дні расцягнуліся на месяц, — піша Павел. — Я думаў, што следчыя імкнуцца аднавіць відэа з будынка суда. Гэта адзіны доказ злачынства АМАПа — яно было выдаленае ў Фрунзенскім РУУС (дарэчы, ёсць артыкул за наўмыснае знішчэнне такой важнай інфармацыі?).

На практыцы ўсё аказалася празаічна. Замест версіі Android 6.0.1 мне ўсталявалі 5.1.1. Цікава, навошта яны мянялі яе на больш старую: хацелі нейкай хрэні запампаваць, але іх састарэлы софт не прымаўся?»

Дарэчы, якраз у гэты дзень СК абвясціў тэндар на закупку прылады, якая забяспечыла б доступ да выдаленай і заблакаванай інфармацыі на смартфонах. «#простасупала», — іранізуе Павел.

## ААЦ: Указ № 98 не закране Skype і Viber пры званках паміж месенджарамі

З адказаў на пытанні стала зразумела, што званкі паміж абанентамі месенджараў кшталту *Skype* і *Viber* не падпадаюць пад забарону. Гэтак жа не трапляюць пад забарону антывызначальнік нумару, ананімайзеры і *VPN*.

Указ не ўводзіць ніякіх абмежаванняў для званкоў паміж карыстальнікамі *Skype*, *Viber* і іншых інтэрнэт-месенджараў унутры Беларусі, але па ініцыятыве аператараў прапрацоўваецца пытанне аб мэтазгоднасці і неабходнасці манетызацыі.

**Еўрарадыё**

## Расійскія камуністы запатрабавалі ад унучкі Сталіна змяніць паводзіны

Як паведамляе *Inosmi* са спасылкай на нямецкае выданне *Bild*, расійскія камуністы маюць намер накіраваць адкрыты ліст унучцы Іосіфа Сталіна, у якім збіраюцца запатрабаваць, каб яна адмовілася ад сваіх правакацыйных паводзінаў, што ганяць імя яе знакамітага дзеда».

Нагадай паслужыла скандальная фотасесія ўнучкі Сталіна Вольгі Петэрс (вядомай пад імем Крыс Эванс), якая выклікала абурэнне ў расійскай камуністычнай партыі.

Прадстаўнік камуністычнай партыі Сяргей Малінковіч заявіў, што мае намер запатрабаваць ад Вольгі Петэрс сачыць за сваімі паводзінамі, а таксама «далучыцца да барацьбы з амерыканскім імперыялізмам і пачаць абараняць правы афраамерыканцаў і індзейцаў, замест таго каб шакаваць грамадскасць сваім дзікім знешнім выглядам».

Вольга Петэрс — дачка Святланы Алілуевай, яна жыве ў ЗША.



**Кіно**

# Помста тэрарыста

Падзенне Лондана
Жанр: баявік, трылер
Рэжысёр: Бабак Наджафі
У ролях: Джэрард Батлер, Ааран Экхарт, Морган Фрыман, Алан Адутбул, Валід Зуэйтар, Адэль Беншэрыф, Махдзі Дэхбі
ЗША, Вялікабрытанія, Балгарыя, 100 хв.
Адзнака: 5

Сюжэт разгортваецца ў Лондане, дзе прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі памірае пры загадкавых абставінах. Яго пахаванне патрабуе абавязковай прысутнасці лідараў Заходняга свету. Але самае абаронёнае мерапрыемства ператвараецца ў бойню — у небяспецы наймацнейшыя сусветныя лідары. Пакістанскі тэрарыст арганізуе змову, каб адпомсціць за смерць сваёй сям'і, забітай амерыканскім дронам. Толькі тры чалавекі могуць гэта спыніць: прэзідэнт ЗША Бенджамін Эшэр, строгі начальнік яго аховы Майк Бэнінг і агент брытанскага МІ-6.

Фільм з'яўляецца сіквелам «Падзення Алімпа» (2013), дзе агент Майк Бэнінг супрацьстаяў карэйскаму тэрарысту. Сіквел змяніў рэжысёра, ім стаў іранец Бабак Наджафі, уладальнік «Залатога мядзведзя» — узнагароды Берлінскага кінафестывалю.

Каманда праекта і акцёрскі склад засталіся такія самыя. Ролю адважнага ахоўніка выканаў Джэрард Батлер («Законапаслухмяны грамадзянін» (2009), «Багі Егіпта» (2016)), а прэзідэнта ЗША — Ааран Экхарт («Цёмны рыцар» (2008), «Я, Франкенштэйн» (2013)). У ролі спікера Палаты прадстаўнікоў ЗША зняўся ўладальнік «Оскара» Морган Фрымен.

Палітычны баявік уражвае хіба што сцэнамі эпічных разбурэнняў Лондана — яго самых вядомых краявідаў. Сітуацыя штучна нагнятаецца за кошт таго, што нібыта сам прэзідэнт ЗША вымушаны хавацца ад небяспекі і біцца з тэрарыстамі пад ахоўай аднаго, самага смелага са сваіх ахоўнікаў, Майка. Аднак амбітны сюжэт не выцягвае агульнай паныласці фільма.




**Настасся Уласава**

# Іван Кірчук: **Міхалок — гэта палітыка ў шортах. А я спяваць «Купалінку» не хачу**

Саліст этна-трыа «Тройца» Іван Кірчук пакідае Педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка. З ім не працягнулі кантракт, кафедры этнаграфіі і этналогіі, дзе ён працаваў, больш не існуе. Кірчук распавёў «Нашай Ніве» пра сваё звальненне, пра тое, чаму ён не спадзяецца на дзяржаўныя грошы і як сумяшчаць хрысціянскую веру з паганскімі абрадамі.



**Зацікаўленне фальклорам пачалося з першых экспедыцый**

«У 1982 годзе я пачаў працаваць у культасветвучэльні і ў мяне быў практыкум па фальклоры. Я быў у Любанскім раёне, у вёсцы Сарачы. Пелагея Шмялёва спявала мне з дзесяці раніцы да гадзіны ночы».

**– Пра звальненне. Гэта было нечаканасцю?**

– Я загадзя ведаў, што гадзін на мае прадметы не будзе. Народныя спевы, практыкум па фальклоры, этнамузыка — гэтыя прадметы не патрэбныя. Была кафедра этналогіі і фалькларыстыкі. Цяпер яе няма. У гэтым годзе ў мяне засталося 0,25 стаўкі — і толькі завочнікі. А гэта ж фактычна тры сустрэчы. Што можна падрыхтаваць, чаму навучыць за тры сустрэчы?

**– А як было раней?**

– У мяне быў кабінет з музычнымі інструментамі, касцюмы. Са студэнтамі мы займаліся народнымі спевамі, народным тэатрам, батлейкай... Ва ўніверсітэце адпрацаваў 19 гадоў.

**– Вы сышлі без крыўды?**

– Так, нармальна. Хіба толькі летась быў такі момант, калі камендантка без усякага папярэджання зайшла ў наш кабінецік і сказала: «Сюды зараз будуць заносіць шафы!» Мне прыйшлося спешна вывозіць нашу калекцыю. Было непрыемна. А крыўды няма.

**– Каб прафесійна запісваць такія песні, пэўна, патрэбны вялікія сродкі?**

– Альбом «Зімачка» каштаваў нам 10 тысяч даляраў.

**– Багатыя беларусы фінансуюць?**

– На адзін наш выступ знаёмыя запрасілі вельмі багатага беларуса. Ён упершыню пачуў «Тройцу». Выйшаў, заплакаў і сказаў: «Усё, бяру скрыню гарэлкі і паеду піць!» Лепш бы ён падышоў да нас...

**– А дзяржава?**

– Ой, пра дзяржаву можаце нічога не гаварыць. Яна ніколі не фінансавала ні адзін наш праект. Да Міністэрства культуры мы ўжо нават не звяртаемся. Нават калі і дадуць штосьці, то пасадзяць да нас пяць сваіх. Калі я вазіў ансамбль «Дзіва», то з намі ездзіла 13 асобаў лішніх — чыноўнікі — свет паглядзець.

**– А як музыка, як ставіцеся да сучасных беларускіх выканаўцаў? У нейкім інтэрв'ю вы прызналіся, што не слухаеце нікога з іх.**

– Гэта не значыць, што яны кепска граюць.

**– Нават самыя папулярныя не падабаюцца? Той жа Міхалок?**

– Міхалок — гэта палітыка ў шортах. Хай ён не крыўдуе, але я не бачу там музыкі.

**– Вы таксама крытыкавалі ўсе музычныя фестывалі: і «Славянскі базар», і «Басовішча», і «Рок-каранацыю»…**

– «Славянскі базар» — ніякі не этнічны фестываль. Людзі плацяць грошы, каб паглядзець, як выканаўца ходзіць па сцэне пад «фанеру».

**– На «Басовішчы» жывыя выступы…**

– «Басовішча» палітызаванае. Аднойчы пасля выступу на фестывалі мы фатаграфаваліся з хлопцамі, і тут падляцелі іх сябры, расцягнулі б-ч-б сцяг, зрабілі здымак. У нас і не спыталі нічога: можна ці нельга? А навошта быў той сцяг?

**– То бок вы прынцыпова супраць палітыкі?**

– А якая палітыка ў народных песнях? А людзі хочуць на гэтым ці то стварыць сабе рэкламу, ці то адпрацаваць тыя грошы, што ім далі.

**– А «Рок-каранацыя» чым вам дрэнная?**

– А што такое «Рок-карона»? У мяне ёсць чатыры, але я не разумею, за што. Што за назва? Кароны шкляныя надзяваюць дзяўчатам на конкурсах прыгажосці.

**– Вы каталік, але займаецеся паганскімі абрадамі накшталт Купалля. Адно другому не пярэчыць?**

– Так, я з каталіцкай сям'і: па бацькавай лініі ў мяне ёсць ксяндзы, па матчынай — манашкі. Таму ў пэўнай ступені ідзе такая барацьба з сабой. Старадаўнія паганскія абрады мне вельмі цікавыя, і, можа, каб я не быў каталікам, я б шчыльна гэтым займаўся. Але трэба было вырашыць для сябе, і я вырашыў: тое, што я раблю, — гэта не вера, гэта мастацтва. Бо тэкстаў зваротаў да зямлі, да вады ў нас не засталося, і калі я ў сваіх монаспектаклях звяртаюся да стыхій, то раблю гэта не як вернік-паганец, а як артыст. Гэта не вера — гэта тэатр.

А што да рэлігіі... Сёння ўсе хочуць выжываць, я так гэта разумею. Я чуў, што праваслаўны святар прыходзіў на Купалле і асвячаў купальскае вогнішча. Каб быць з усімі? Смешна. Там агонь, але ў святара павінен быць свой агонь, што ў храме гарыць.

**– Дзе зараз будзеце працаваць?**

– Мяне запрасілі выкладаць курс «Традыцыйная народная культура» ў Інстытуце беларускай культуры. Толькі трошкі па-іншаму, бо тут будуць не студэнты, а слухачы, якія прыязджаюць на павышэнне кваліфікацыі.

**– А стварыць штосьці сваё для аматараў не думалі? Накшталт моўных курсаў, якія цяпер вельмі папулярныя?**

– Мяне запрашалі на майстар-клас па вакале, але я адмаўляюся. Бо народныя спевы — іншы падыход, гэта не сальфеджыа. Гэта складаная, доўгая праца па магнітафонных стужках. Са студэнтамі, якія мелі адукацыю і прыходзілі да мяне раз на тыдзень, адну песню мы часам рыхтавалі паўгода. Хто ж будзе хадзіць на такія курсы, дзе адну песню паўгода вучаць? А хадзіць і спяваць «Купалінку» не хачу.

**Гутарыў Улад Швядовіч**

# Крыж Еўфрасінні Полацкай знаходзіцца ў Тройца-Сергіевай лаўры?

Гісторык **Сяргей Тарасаў** лічыць, што Крыж Еўфрасінні Полацкай цэлы і знаходзіцца ў падмаскоўным Загорску, у Тройца-Сергіевай лаўры.



75 гадоў таму з прыфрантавога Магілёва знік Крыж Еўфрасінні Полацкай. Ужо за часоў незалежнасці яго спрабавалі шукаць у амерыканскіх фундацыях, у сховішчах Ватыкана, у расейскіх музеях. Станоўчых вынікаў тыя пошукі не далі. Дзе сёння нацыянальная святыня беларусаў? На гэтае пытанне паспрабаваў адказаць гісторык **Сяргей Тарасаў**.

Спачатку хачу нагадаць ранейшыя версіі. Самая папулярная ў савецкі час — Крыж быў звезены немцамі. Яшчэ выказвалася гіпотэза, што ў 1920-я гады, калі рэквізаваліся царкоўныя каштоўнасці, Крыж маглі прадаць на адным з аўкцыёнаў, пасля чаго ён мог трапіць за акіян — у ЗША (а ў Магілёве захоўвалася копія). Гаварылася і пра тое, што машыны, на якіх везлі каштоўнасці з Магілёўскага музея разам з архівам ЦК КПБ, недзе па дарозе трапілі пад бамбёжку, і Крыж быў знішчаны ці трапіў кудысьці ў Расію. Я, дарэчы, спачатку схіляўся да гэтай версіі. Але пасля таго, як у піцерскім Эрмітажы выявіўся крадзеж розных каштоўных рэчаў, у Расейскай Федэрацыі прайшла суцэльная праверка фондаў абсалютна ва ўсіх музеях. Калі б Крыж быў у нейкім музеі, ён абавязкова ўсплыў бы. Але тут цікавая акалічнасць: вывезены разам з Крыжам архіў ЦК КПБ, па сведчаннях маіх калегаў-архівістаў, захаваўся цалкам.

**— У 2003 нечакана знайшлося і Слуцкае Евангелле, якое разам з Крыжам знікла ў 1941 з Магілёва.**

— Факт з'яўлення арыгіналу Евангелля паказвае, што ёсць і арыгінал Крыжа. Калі ў другой палове 90-х берасцейскі мастак Мікола Кузьміч рабіў копію Крыжа, рэжысёр Віктар Шавялевіч зняў пра гэта дакументальны фільм. І ў тым фільме ёсць цікавы эпізод. Уладыка Філарэт апавядае пра тое, як удалося знайсці святыні-рэліквіі, закладзеныя ў Крыж Еўфрасінні Полацкай. Там была часцінка Крыжа Гасподняга, фрагменты святых мошчаў. І вось уладыка гаворыць у кадры, што з цягам часу ўдалося знайсці ўсё, адзінае, чаго не ўдавалася, — гэта часцінка крыві Ісуса Хрыста. І вось аднойчы, калі ён быў у сябе на радзіме ў Загорску, у Тройца-Сергіевай лаўры, у рызніцы ён убачыў на нейкай «дошчачцы» маленькую кропельку і надпіс над ёй (скарочана): «Кроў Хрыстова». Што гэта за «дошчачка» з кроўю Хрыста ў рызніцы ў Загорску? На маю думку, гаворка можа ісці толькі пра Крыж Еўфрасінні Полацкай.

**— І што, за ўвесь гэты час яго ніхто, апрача ўладыкі Філарэта, не бачыў?**

— Па маіх звестках, Крыж адносна нядаўна бачылі, у тым ліку людзі з Беларусі. На жаль, я не магу назваць імёны, магу толькі сказаць, што гэта — афіцыйныя асобы. Тройца-Сергіева лаўра — вельмі значная для Расейскай праваслаўнай царквы. Туды адкрытага доступу няма. Крыж ляжыць у такім месцы, куды звычайнаму чалавеку трапіць немагчыма.

**— Але якім чынам Крыж мог трапіць у тую лаўру?**

— Да 1941 у Савецкім Саюзе нідзе не ўзгадваліся ні Аляксандр Неўскі, ні Мінін з Пажарскім, ні Ушакоў, ні Нахімаў, а тут, калі пачалася вайна, яны раптам былі абвешчаныя героямі, іх выявы неўзабаве з'явіліся на ордэнах. Сталін дае царкве карт-бланш — і царква моліцца за перамогу савецкай зброі. Дзяржава мусіла нечым заплаціць. А чым? Усё, што было канфіскавана ў царквы, было занесена ў «госхраны» альбо ў фонды музеяў. А адтуль дастаць і вярнуць царкве было немагчыма. Заставалася аддаць тое, што не было ўлічана. А такімі няўлічанымі маглі стаць каштоўнасці, у тым ліку і з Магілёўскага музея, у тым ліку і Крыж Еўфрасінні Полацкай.

**— Ці можна дапусціць, што Крыж Еўфрасінні Полацкай, як згаданае Слуцкае Евангелле, у пэўны момант можа ўзнікнуць невядома адкуль?**

— Нежаданне перадаць яго Беларусі можа быць патлумачана як заўгодна. Скажам, у Расеі прыняты закон аб рэстытуцыі, які забараняе вываз каштоўнасцяў. Так што наўрад ці Крыж будзе вернуты. У адным я абсалютна ўпэўнены — ён цэлы.

**Міхась Скобла, радыё «Свабода»**

# Зноў спайсы? Голы мужчына ледзь не зарэзаў бабулю з унучкай

Яны **выжылі**, нападнік затрыманы.

Дзікае здарэнне адбылося 15 сакавіка. Жыхары двухпавярховіка ў Савецкім раёне Гомеля заўважылі ў двары дома трохі дзіўнага мужчыну. Ён сядзеў адзін на лаўцы недалёка ад пад'езда і гаварыў уголас. На ім былі навушнікі, і людзі думалі, што ён гаворыць па мабільніку праз *hands-free*.

Пару гадзін так сядзеў, потым заплакаў і пайшоў за плот закінутага дома, што стаяў побач. Там мужчына раздзеўся дагала і зноў накіраваўся да двухпавярховіка. Пайшоў па пад'ездзе, тузаючы ручкі дзвярэй. Адна з кватэр не была замкнёная. Увайшоў.

У кватэры ён прайшоў у кухню і ўзяў там нож. Затым адчыніў дзверы ў пакой, дзе былі 4-гадовая Паліна і яе 55-гадовая бабуля Любоў Аляксееўна. І напаў на іх, раз за разам б'ючы нажом…

Крыкі пачуў сусед, ён забег у кватэру, выбіў з рук нападніка нож, скруціў яго і выклікаў міліцыю. «Забіце мяне, я не хачу жыць», — енчыў той. Затрыманым, як паведаміла афіцыйная прадстаўніца Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крыванагава, аказаўся раней не судзімы 26-гадовы працоўны аднoй з гомельскіх арганізацыяў.

Дзяўчынка і яе бабуля пасля рэанімацыі пераведзены ў аддзяленне. На целе жанчыны — 22 раны ад нажа.

Гарадскі аддзел Следчага камітэта пачаў у дачыненні да затрыманага крымінальную справу па факце замаху на забойства дзвюх асоб. Высвятляюцца матывы злачынства. Эксперыза паказала, што на момант нападу мужчына быў цвярозы, але вынікі тэстаў на спайсы і іншыя наркотыкі пакуль невядомыя.

**УШ**

## Алказалежны мінчук скраў грошы ў бацькі і выскачыў з акна

«Мужчына злоўжываў спіртнымі напоямі, у сувязі з чым не раз трапляў у лячэбна-працоўны прафілакторый. Падчас чарговага запою бацька быў вымушаны замкнуць яго дома, каб той працверазеў і адумаўся», — распавялі ў РУУС.

Аднак, калі бацькі сышлі на працу, сын выявіў сейф з грашыма і выкраў больш за $7 тысяч і 220 еўра. Дзверы кватэры ён адамкнуць не змог, таму скочыў з балкона — з чацвёртага паверха. У выніку трапіў у бальніцу, дзе ў яго і выявілі тыя грошы. У дачыненні да мінчаніна распачата крымінальная справа за крадзеж.

**УШ**

## Суіцыд у метро

17 сакавіка ўвечары на нейкі час спыніўся рух мінскага метро. Станцыя «Акадэмія навук» была зачыненая ўвогуле: упаў на рэйкі малады чалавек. Ён загінуў.

Асобу загінулага высветлілі. Гэта 26-гадовы мінчанін. Праваахоўнікі праводзяць праверку па гэтым факце. Папярэдняя прычына здарэння — суіцыд, паведаміў прэс-сакратар Мінскага метрапалітэна Андрэй Кузьмін.

Рух метро быў спынены на 20 хвілін. Затым цягнікі пайшлі, але станцыя была зачыненая яшчэ каля гадзіны.

**УШ**

## 18 гадоў за тое, што спаліў сяброўку

17 сакавіка абвясцілі прысуд 23-гадоваму жыхару **вёскі Дзівін**.



Брэсцкі абласны суд прызнаў маладога чалавека вінаватым у забойстве з асаблівай жорсткасцю асобы, якая знаходзіцца ў безпаможным стане, і прыгаварыў да 18 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Абвінавачанага таксама абавязалі выплаціць па 100 мільёнаў рублёў кампенсацыі маральнай шкоды маці і сястры загінулай, пакрыць выдаткі на пахаванне і паслугі адваката. Акрамя таго, яму прызначылі прымусовае лячэнне ад алкагалізму, паведамілі ў Брэсцкім абласным судзе.

Прысуд пакуль не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

Абвінавачаны і яго ахвяра пазнаёміліся, калі ёй было 15 гадоў. У 16 у яе нарадзілася дачка Ульяна. Праз два гады маладыя людзі з'ехаліся. Дзяўчынка некаторы час жыла з бацькамі, але пазней яе забрала да сябе бабуля.

«Я забрала дзіця, бо дзіця баялася яго (абвінавачанага). Усё казала: «Тата маму ўсё ў лоб б'е». Ну навошта, каб дзіця гэта бачыла? У іх пастаянна былі канфлікты. Ён яе пастаянна збіваў, а яна ўцякала да суседзяў, хавалася», — патлумачыла на судзе маці загінулай дзяўчыны.

5 лістапада мінулага года пара зноў пасварылася. Са слоў падазраванага, ноччу падчас застолля яго дзяўчына пайшла спаць. Яму гэта не спадабалася. На яе адмову вярнуцца ў кампанію ён плюхнуў на дзяўчыну, што ляжала ў ложку, бензін і кінуў запалку...

Вопратку на пацярпелай паспелі згасіць знаёмыя, якія знаходзіліся побач. Пацярпелую з тэрмічнымі апёкамі твару, рук і тулава даставілі ў бальніцу. Праз тры тыдні яна памерла ў рэанімацыі.

На судзе малады чалавек сваю віну прызнаў часткова: пацвердзіў, што нанёс цялесныя пашкоджанні, але падкрэсліў, што зрабіў гэта ненаўмысна, без намеру на забойства. Усё гарэлкізастоллі.

**Паводле Tut.by**

## Дзяўчына заваблівала мужчын, а яе сябры рабавалі

Гэта, фактычна, была банда падлеткаў. Сярэдні ўзрост падазраваных — 17 гадоў, самаму малодшаму — 14. Аператыўнікі затрымалі чатырох хлопцаў і дзяўчыну, якія падазраюцца ў рабаваннях у Цэнтральным раёне сталіцы.

У іх была свая стратэгія. Адзіная дзяўчына, 16-гадовая навучэнка адной з прафесійна-тэхнічных вучэльняў сталіцы, выступала ў ролі прынады. Пад чужым імем яна рэгістравалася на сайце знаёмстваў, хаваючы свой сапраўдны век. Кавалеры ляцелі як матылі на агонь. Дзяўчына прымала прапановы аб знаёмстве, а падчас сустрэчы прапаноўвала, замест кавярняў ды рэстаранаў, пайсці да яе дахаты. Маўляў, жыве непадалёк, а бацькі адпачываюць за мяжой.

Пасля яна прыводзіла мужчыну ў бязлюднае месца і ў гульню ўступала сілавая частка банды. Чацвёра сябрукоў даганялі іх, збівалі мужчыну і забіралі яго маёмасць. А каб не спяшаўся ў міліцыю, хлопцы пераконвалі пацярпелага, што дзяўчына непаўнагадовая і сама напіша на яго заяву за інтымныя зносіны з непаўналетняй. Пры гэтым яны рабілі выгляд, што здымаюць мужчыну на камеру мабільнага.

Серыя нападаў скончылася на вуліцы Ціхай, куды дзяўчына зазвала чарговага знаёмага. Мужчыну збілі, забралі мабільны тэлефон і грошы. Але пацярпелы здолеў дабрацца да праспекта Пераможцаў. Там яго ўбачылі людзі, якія выклікалі хуткую і міліцыю.

Неўзабаве рабаўнікоў затрымалі. Усіх удзельнікаў групы прыцягнуць да крымінальнай адказнасці — за здзейсненне рабавання і разбою яна наступае з 14 гадоў. Максімальнае пакаранне, якое можа пагражаць падазраваным, — да 15 гадоў.

**Паводле БелаПАН**

## У Гомелі жорстка забілі таксіста

16 сакавіка 40-гадовы Андрэй Шваццоў, які працаваў у службе 155 «Альфа», як звычайна, паехаў на работу. Праз гадзіну ён пазваніў жонцы і паведаміў, што вяртаецца дахаты. Аднак дамоў так і не даехаў.

Пасля на званкі ён не адказваў. Апошнім вызначаным месцазнаходжаннем таксіста на карце быў аграгарадок Бабовічы пад Гомелем.

18 сакавіка Шваццова знайшлі забітым. Яго цела ляжала ў канаве каля вёскі Сасноўка, закіданае галінамі. Паводле папярэдніх звестак, спачатку мужчыну душылі шалікам, а затым забілі стрэлам у вуха. Машына, барвовы «Форд Гэлаксі», знікла. Гэта дало падставы меркаваць, што Шваццова забілі, каб завалодаць аўто. Аднак пасля «Форд» знайшлі за некалькі кіламетраў ад месца злачынства.

Неўзабаве затрымалі падазраванага — 37-гадовага непрацуючага мужчыну. Мясцовы партал *Gomel.today* паведамляе, што зламыснік — гульняман, у біяграфіі якога фігуравала служба па кантракце ў Чачні. А забойства ён здзейсніў, каб забраць выручку таксіста. Праўда, афіцыйна гэтыя звесткі пакуль не пацвердзілі.



Андрэй Шваццоў.

Шваццова пахавалі 20 сакавіка. Калегі праводзілі яго жалобным картэжам з больш як дзвюхсот таксовак.

**УШ**

### Сціcла

**Сеў за хабар**

Былы дырэктар «Белчыгункапраекта» прысуджаны да 11 гадоў зняволення. Ён падазраваўся ў атрыманні $160 тысяч у якасці хабару за заключэнне загадзя нявыгадных кантрактаў з камерцыйнымі структурамі.

**Застрэліўся праз нешчаслівае каханне**

13 сакавіка ў Лынтупах (Паазер'е) застрэліўся салдат тэрміновай службы. Хлопец павінен быў сысці на дэмбель у маі. Паводле папярэдняй версіі, малады чалавек здзейсніў самагубства праз нешчаслівыя адносіны з дзяўчынай.

**Пакараў за безбілетны праезд**

У Мінску псіхічнахворы кантралёр выкраў кашалёк з грашыма ў 55-гадовай жанчыны, якая не аплаціла праезд у грамадскім транспарце. Лёс яго вырашыць суд.

**Злодзея знайшлі па слядах ад мукі**

Злодзей каменем разбіў вітрыну крамы ў Шчучыне і вынес прадукты, 18 пляшак спіртнога і 50 энергазберагальных лямпачак. Але адзін з пакетаў мукі быў разарваны, і міліцыі заставалася толькі ісці па мучным следзе.

**Мужчыну, ад якога зацяжарыла 14-гадовая, выпусцілі з-за кратаў**

Гомельскі абласны суд змяніў меру пакарання 26-гадоваму Віктару, жыхару Светлагорскага раёна, якога ў студзені асудзілі на 3 гады за сэксуальныя зносіны з заведама малалетняй. Мужчына падаў касацыйную скаргу, і суд адтэрмінаваў пакаранне на тры гады. Яго сяброўцы праз месяц нараджаць, а ў жніўні ёй споўніцца 15 гадоў, і яны з Віктарам (на фота ўнізе) ажэняцца.

**УШ**



# Аляксей Ластоўскі: «Менш чым за два гады я пакаштаваў 3800 гатункаў піва»

Сацыёлаг расказвае пра **канцэрнавае і крафтавае піва**.

Якіх толькі сацыяльных сетак не стварылі за апошні час! Існуе нават піўная *Untappd*, дзе карыстальнікі фіксуюць выпітыя напоі, ставяць адзнакі, пакідаюць невялікія каментары. І мераюцца «чэкінамі» — колькасцю пакаштаваных гатункаў. Самі сябе такія людзі называюць «біргікамі» — піўнымі фанатамі. Рэкардсменам па колькасці чэкінаў у Беларусі і ва ўсёй СНД лічыцца кандыдат сацыялагічных навук, супрацоўнік Інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» Аляксей Ластоўскі.

**Аляксей Ластоўскі:** У мяне 3800 «чэкінаў»! Гэтай лічбы я дасягнуў менш чым за 2 гады.

**«Наша Ніва»: Колькі ж гэта гатункаў на дзень?**

**АЛ:** Гэта больш за 5 гатункаў піва на дзень. Але адразу хачу патлумачыць гэтую фантастычную лічбу. Чэкін — гэта дэгустацыя. Не абавязкова піць пляшкамі, куфлямі пад рыбку. Вельмі часта мы з сябрамі ладзім супольныя дэгустацыі, калі спрабуем шмат гатункаў піва. Аб'ёмы выпітага ў такім разе меншыя — 30—50 грамаў. У прынцыпе, гэтага хапае для адзнакі. Загартаваны чалавек можа адчуць прынцыповыя для піва рэчы з невялікай дозы. За такі дэгустацыйны вечар можна пакаштаваць і 20—30 гатункаў піва. Гэта зусім не значыць, што я кожны дзень спажываю велізарную колькасць піва. Натуральна, што без пастаянных выездаў за мяжу дасягнуць такой лічбы таксама было б немагчыма.





NEWS.UNIPACK.RU

**«Аўстраліян Бітэр»** — цікавы прадукт лідскага бровара.

**«НН»: Дылетанцкае пытанне: як добрае піва адрозніць ад кепскага?**

**АЛ:** У крамах трэба арыентавацца на вытворцу. Ёсць вытворцы, якія клапоцяцца пра якасць, таму вараць цікавыя гатункі, думаюць пра спажыўца. Піва, што прадаецца ў Беларусі, — гэта збольшага традыцыйныя еўрапейскія лагеры. Гэта значыць, лёгкае светлае піва, якое выробляецца па адпрацаванай гадамі тэхналогіі. І тут вельмі цяжка вызначыць, дзе піва добрае, а дзе кепскае, бо яно амаль аднолькавае, стандартызаванае. Большасць буйных беларускіх бровараў раскупленая гіганцкімі сусветнымі канцэрнамі.

Піва становіцца цікавым, калі варацца новыя гатункі, якія патрабуюць эксперыментаў, новых падыходаў. У такім выпадку сапраўды можна адчуць, ці ўдалося ў піввара атрымаць нешта нечаканае, свежае, ці выйшаў правал. Вялікія піўныя заводы не ідуць на эксперыменты, бо тыя могуць не апраўдацца.

**«НН»: Калі гаворка зайшла пра новыя падыходы, то вы маеце на ўвазе крафтавае піва? Што ўвогуле такое крафт, пра які так шмат гавораць?**

**АЛ:** У сусветнай піўной індустрыі ад 1970-х гадоў ідуць істотныя змены. Яны пачаліся ў ЗША, пасля перабраліся ў Еўропу. Цяпер гэта тэндэнцыя дайшла і да Беларусі. Гаворка ідзе пра так званае крафтавае піва. Само слова «крафт», па сутнасці, можна перакласці як «рамесніцкае піва». Яго выробляюць малыя бровары, што ідуць на смелыя эксперыменты і выкарыстоўваюць незвычайныя інгрэдыенты. Натуральна, што такое піва каштуе значна даражэй за канцэрнавае. З'явілася і адпаведная субкультура спажывання такога піва. У любой краіне свету крафт складае не больш за 10% ад піўнога рынку краіны. Але крафт вабіць, бо гэта модна і цікава. Такая хваля падбівае нават вялікія заводы ісці на эксперыменты. Цяпер модна варыць крафт? Чаму б нам не паспрабаваць. Праўда, у выніку яны закідваюць нейкую хімічную мешаніну для таго, каб піва набыло незвычайны смак. І гэта потым называюць крафтам. Мода прыводзіць да скажэнняў.

У Беларусі з гэтым бяда, бо сапраўдных крафтавых бровараў у нас вельмі мала. А буйныя заводы, на маю думку, пачынаюць эксплуатаваць тэму не самым прыгожым чынам. Самы яркі прыклад — гэта «Калекцыя піввара» ад «Лідскага бровара». У серыі выйшла толькі адно прыстойнае піва — «Аўстраліян Бітэр». Жахлівая «крафтавая» серыя выйшла ад «Крыніцы». Але як прыклад сапраўднага беларускага трэшу ніхто не пераплюнуў віцебскі «Дзвінскі бровар», які выпусціў серыю *Bumblebee*. Гэта, я лічу, жудасная хімія, на якую ганарліва павесілі этыкетку «крафт».

**«НН»: То бок у крафце «хіміі» быць не павінна?**

**АЛ:** Так, для крафту характэрна выкарыстанне не смакавых дадаткаў, а натуральных прадуктаў. Калі гэта, напрыклад, мангавае піва, туды дадаюць не канцэнтрат манга, а сапраўдныя фрукты. Гэта дарагая, цяжкая працэдура. Але менавіта так робіцца крафт.

**«НН»: А якія самыя цікавыя гатункі беларускага піва, як сярод масавага, гэтак і рамесніцкага?**

**АЛ:** Вялікія піўзаводы, як я ўжо казаў, цяжка ідуць на інавацыі. Як ні дзіўна, але я б хацеў адзначыць «Крыніцу», бровар, які мае ў Беларусі не самую добрую рэпутацыю. Яны аднавілі гатунак «Культ» — гэта цёмнае пшанічнае піва. Гэта адраджэнне лёгка цягне на званне найлепшага піва мінулага года ў Беларусі. Поспех нарадзіў падаўжальнікаў. Зусім нядаўна «Лідскае піва» выпусціла гатункі цёмнага і светлага пшанічнага. Таксама трэба добрым словам адзначыць «Аўстраліян Бітэр». І на гэтым спіс гатункаў, якімі б магла ганарыцца наша краіна, практычна сканчваецца..

Можна сказаць, што масавае піва ў Беларусі знаходзіцца ў стане стагнацыі. З іншага боку — яно задавальняе спажыўцоў.

У нішы малых бровараў варта адзначыць дзве ініцыятывы. Перш за ўсё — гэта бровар «Сябры», што знаходзіцца на вуліцы Кульман у Мінску. Там вараць у высокай якасці як класічныя гатункі, гэтак і сезонныя. Іхнія эксперыменты вельмі ўдалыя: «Грызлі» — амерыканскі карычневы эль, «Ліён» — чырвоны эль. Там варылі нашумелае піва «Статут 1529» і зусім нядаўна з'явіўся «Статут 1566». «Статут 1529» выпілі літаральна за пару дзён, таму ў некаторым плане гэтае піва стала легендарным. Адзіны мінус — гэта сам рэстаран «Сябры». Вечарамі ён становіцца спецыфічным месцам, дзе гучна грае музыка, ліецца ракой гарэлка, усе танчаць. Мы ходзім папіць туды піва ў выходныя ў раёне абеду, каб можна было спакойна атрымліваць асалоду.

Цёмны **Kult** трыумфальна вярнуўся ў крамы пасля перапынку.

MARKETING.BY

Таксама варта ўзгадаць кантрактную піваварню *Brew Team*. Іх гатункі можна пакаштаваць у «Старамесцкім піваварах». Найбольш нашумелы быў «Венскі АРА». Зусім нядаўна ў Беларусь трапіла піва, якое *Brew Team* варыла ў супрацы з літоўскім *Dundulis*, з назвай блізкай і беларускаму, і літоўскаму вуху — *Duda*.

**«НН»: А дзе ёсць малыя бровары, апроч Мінска?**

**АЛ:** У Мінску гэта «Бівер», «Талер» і іншыя. Пад Брэстам знаходзіцца бровар «*13 Litar*» — самая сур'ёзная з рэгіянальных бравараў. Яна вярнулася на рынак пасля пэўнага перапынку. Даўняя піваварня ёсць у Гомелі — «Бекер». «Нагорны Пасад» — у Магілёве. «Лямус» — у Віцебску. І зусім нядаўна адкрыўся рэстаран-піваварня «Данжон» у Наваполацку.

**«НН»: Ці лёгка ў Мінску знайсці цікавае замежнае піва?**

**АЛ:** Я адразу хачу вылучыць галоўную праблему, якая турбуе піўных аматараў. Існуе бар'ер на ўвоз у Беларусь піва, якое ўтрымлівае больш за 7 градусаў алкаголю. Гэта забарона была ўведзеная, каб спыніць імпарт у Беларусь няякаснага мацаванага расійскага піва накшталт «Доктар Дызель». Але існуе шмат гатункаў, што маюць высокі градус алкаголю — гэта і шматлікія бельгійскія стылі, гэта і расійскі імперскі стаўт. Гэта залаты фонд крафту, і ён становіцца недасяжны для беларусаў! На дадзены момант ніякіх зрухаў няма, хоць і пагроза расійскіх моцных гатункаў фактычна знікла.

У гэтым плане шмат робіць крама разліўнога піва «Кропка», якая арыентуецца на густы сваіх спажыўцоў. Прывозяць да нас шмат цікавага расійскага крафтавага піва.

**«НН»: Нядаўна бачыў піўны рэйтынг краін Еўропы, дык Беларусь там на адной з апошніх пазіцый. У нас сапраўды ўсё так кепска?**

**АЛ:** Калі казаць пра канцэрнавае піва, то яно нічым не горшае, але і не лепшае за аналагічныя гатункі ў суседніх краінах. Калі мы возьмем «Аліварыя Экстра» і «Швітурыс Экстра», якія робяцца ў розных краінах, але належаць аднаму канцэрну «Карлсберг», то па якасці яны прынцыпова не адрозніваюцца. Замежнікі, што прыязджаюць у Беларусь, таксама не адчуваюць падзення якасці. У нас канцэрнавае піва сярэдняй еўрапейскай якасці. Вядома ж, нельга параўноўваць з Бельгіяй ці Чэхіяй, але ў параўнанні з суседзямі ўсё не так кепска.

Калі ж казаць пра крафтавае піва, то Беларусь адстае ад Еўропы. І па колькасці бровараў, і па колькасці гатункаў... Зрэшты, для спажывання такога піва патрэбна існаванне сярэдняга класа. У Мінску сярэдні клас не такі вялікі.

У Беларусі ўсё рухаецца наперад, але не такімі высокімі тэмпамі. Апошнім часам у гэтым плане вельмі імкліва вырваліся наперад Польшча і Эстонія. Затое ў Літве ўжо некалькі гадоў нічога не змяняецца да лепшага. Украіна таксама існуе ў спецыфічным фармаце.

**«НН»: А ў Расіі?**

**АЛ:** Там ёсць такія гарады, як Масква і Санкт-Пецярбург, з вялізным рынкам спажыўцоў крафту. У іх ледзь не штодня адкрываюцца новыя бары і браварні. Гэта частка гарадской культуры.

**«НН»: А ці існуе ў Беларусі такая з'ява, як хатнія бровары?**

**АЛ:** Натуральна, вараць. Ёсць суполка хатніх бровараў «Бонда», ёсць конкурсы. Магу сказаць, што хатнія піввары — гэта тое, чым мы можам ганарыцца. Варыць піва дома для прыватнага ўжытку абсалютна легальна. У мяне ёсць сябры, якія набылі абсталяванне і вараць піва. Тут нават ёсць момант эканоміі. Адзіная праблема — інгрэдыенты. Можна выкарыстоўваць беларускі солад, а вось хмель — толькі прывезены. Летась у Літве на конкурсе хатніх бровараў перамог якраз беларус.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**



DRUZYA.BY

На эмблеме піва **«Статут 1566»** размешчана «Пагоня».



BELBEER.COM

Піва **«Дуда»** — сумесны прадукт беларускіх і літоўскіх піввараў.

**Артыкул не з'яўляецца рэкламай алкагольнай прадукцыі і адлюстроўвае асабістае меркаванне рэспандэнта. Меркаванне рэспандэнта можа не супадаць з меркаваннем рэдакцыі. Празмернае ўжыванне алкаголю шкодзіць вашаму здароўю!**

# Хлопец, што залез са сцягам на аўтобус: «Калі столькі людзей на цябе глядзяць… Гэта цяжка перадаць!»

19 сакавіка споўнілася 10 гадоў Плошчы-2006. Карэспандэнт «НН» адшукаў аднаго з герояў тых дзён — хлопца, які праехаў са сцягам на аўтобусе №100.



Мінск, Кастрычніцкая плошча, 19 сакавіка 2006 года. Людзі патрабуюць свабодных выбараў.

**Перад тым як саскочыць, я сцяг перадаў камусьці — гэта было пытанне гонару, каб наш сцяг не ўпаў на зямлю**

ФОТА ЮЛІІ ДАРАШКЕВІЧ

Увечары, пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года, дзясяткі тысяч людзей, нязгодных з вынікамі, выйшлі на Кастрычніцкую плошчу. Намётавае мястэчка стаяла ў цэнтры Мінска некалькі дзён. У разгар Плошчы-2006 нейкі юнак зрабіў адзін з самых незвычайных учынкаў у найноўшай беларускай гісторыі: залезшы з нацыянальным сцягам на аўтобус, ён зарадзіў тысячы людзей духам свабоды і надзеі. Яго імя так і засталося невядомым.

Потым яго беспаспяхова шукалі журналісты і спецслужбы — усё дарма. Толькі праз 10 гадоў ён распавёў «Нашай Ніве» пра падзеі таго дня ад першай асобы. Хоць мінула ўжо столькі часу, наш герой не хоча, каб у СМІ гучала яго імя. Сціпла называе толькі мянушку, пад якой яго тады ведала мінская моладзь, — Варт.

Сёння Варту 27, а ў дзень пратэстаў на Кастрычніцкай плошчы ён быў 18-гадовым хлопцам, што толькі скончыў школу. Ён кажа, што ў той дзень яму не сядзелася дома, бо паўсюль толькі і чуліся размовы пра Плошчу. Не могучы заставацца ў баку, хлопец разам з сябрам «літаральна на гадзінку-дзве» паехаў на Кастрычніцкую. «Ніякага плана ў нас не было, усё атрымалася спантанна, — расказвае сёння Варт.

— Проста выйшла шмат людзей, якія рэальна хацелі змяніць краіну да лепшага. Яшчэ больш сядзела дома і спачувала. Людзі так і казалі: вы хаця б суткі пратрымайцеся там, а калі ў вас будзе атрымлівацца, то і мы выйдзем. Але ніякай арганізацыі не было, мы проста стаялі. Ніхто не казаў нам, што трэба рабіць і як.

Ну, і мы з сябрам вырашылі раварушыць народ, каб з'явілася надзея, падняўся настрой. Мы ж паркурам займаліся. Ведаеце, па мастах там лазілі, па будоўлях, экстрым любілі. Таму заскочыць на аўтобус — гэта не праблема зусім была. Я трохі разагнаўся, сябра падкінуў і ўсё — я на даху, тут жа нейкі абсалютна незнаёмы чалавек падаў сцяг, я ўзяў яго і паехаў».

Пачуцці, кажа, былі ашаламляльнымі.

«Калі столькі людзей на цябе глядзяць і ты разумееш, што зрабіў для іх усіх нешта абнадзейваючае, што яны цябе вітаюць, падтрымліваюць... Гэта цяжка перадаць! Я заскочыў каля цырка, праехаў па праспекце, потым трохі ўздоўж плошчы, і тут аўтобус пачалі атачаць АМАП з ДАІ. Тады ж натоўп зноў прыгожа прыняў мяне да сябе, адсекшы міліцыю», — расказаў Варт.

«Перад тым як саскочыць, я сцяг перадаў камусьці — гэта было пытанне гонару, каб наш сцяг не ўпаў на зямлю. А потым пайшоў дадому, бо мне трэба было. Я ж сказаў бацькам, што на пару гадзін выйшаў».

Бацькі ў Варта — звычайныя рабочыя мінчукі, інжынеры. Тады яны не ведалі, дзе быў іх сын.

«Я не расказваў, бо не хацеў хваляваць. Яны самі ніколі кепскіх справаў не рабілі, іх палітычныя погляды — заўсёды за праўду і справядлівасць. Для мяне таксама гэтае ж галоўнае, я ад іх узяў. І ніколі ні ў якіх арганізацыях — ні апазіцыйных, ні ўладных — не ўдзельнічаў. Толькі гады праз два я бацькам прызнаўся, але маці ўжо ведала: яна пазнала мяне па відэа», — расказаў хлопец і дадаў, што вельмі крыўдна тады было прымаць паразу Плошчы.

«Тады я расчараваўся, што пераменаў не будзе. Ну як, перамены заўсёды ёсць, але сёння яны ўсё да горшага. А мы ж хацелі да лепшага».

Пасля няўдалай Плошчы-2006 хлопец адвучыўся ў Беларусі, а потым і за мяжою. Цяпер ён жыве на тры краіны: Чэхію, Германію і Польшчу, займаецца бізнэсам. Кажа, што за мяжою не лепей і не лягчэй, але больш магчымасцяў, таму пакуль ён там.

Аднак Варт часта прыязджае на радзіму і ў перамогу рэвалюцыі ўжо не верыць.

«Я і на Плошчы-2010 быў, але не вельмі актыўна. Тады для мяне было зразумела, што нічога не будзе. Бо апазіцыя зноў не мела плана, усё было разарганізавана. Ды і ведаеце, калі штосьці некалькі разоў не ўдаецца, то наступны раз матывацыя ўжо не тая. Канечне, рэвалюцыя магчымая і цяпер, бо ў эканоміцы горшае. Але гэта ўсё гіпатэтычна. Калі казаць рэальна, то трэба, каб штосьці кардынальна змянілася ў свядомасці беларусаў, можа, нейкая дробязь, нават не палітычная. То бок у людзей не хапае элементарнай дасведчанасці ў эканоміцы і палітыцы. Беларусаў падманваюць. Ім патрэбна паступовая асвета, прыклад. І не за тыдзень, не за год гэта робіцца, але ў галаве людзей штосьці зменіцца, я веру, — спадзяецца Варт і дадае яшчэ трохі філасофскага: — Я сам цвёрда іду да сваіх мэтаў і маю сілу духу. Таму кожнаму беларусу я тое самае раю, а далей жыццё пакажа».

**Арцём Гарбацэвіч**

# Пані-садыстка з Мазырскага павета

Пра Ганарату Стоцкую з Рэмезаў, ад учынкаў якой кроў стыла ў жылах сучаснікаў, піша **Васіль Герасімчык**.

Летам 1835 года невялікі маёнтак Рэмезы Мазырскага павета трапляе ў поле зроку губернскага кіраўніцтва. У Мінск прыйшла скарга на дзеянні памешчыка Бярнарда Стоцкага. Яго кіраванне былым езуіцкім маёнткам Рэмезы, гаварылася ў скарзе, вядзе да спусташэння як самога ўладання, якое належала яго цешчы Тэклі Багушовай, так і мясцовых сялян.

Памешчыцкія сяляне да адмены прыгоннага права ў 1861-м былі самай бяспраўнай часткай насельніцтва Расійскай Імперыі, часткай якой у тыя часы была Беларусь. Уласнікі маглі іх прадаваць, закладаць, дарыць, абменьваць, біць бізунамі і ссылаць. Панскае самавольства практычна нічым не абмяжоўвалася, паколькі сялянам забаранялася нават скардзіцца. Але калі ўсё ж скардзіліся — улады вымушаныя былі рэагаваць. Так здарылася і ў выпадку Рэмезаў. 30 чэрвеня 1835 года мазырскаму земскаму суду было прадпісана назіраць за ўчынкамі Стоцкага, «пад асабістую адказнасць за дапушчэнне яго да супрацьзаконных дзеянняў». Аднак далей рэкамендацый справа не пайшла. Расплатаю для сялян стала павелічэнне і без таго вялізных павіннасцяў.

### У пошуках мужыцкай праўды

Скаргу тую склаў селянін з Рэмезаў Сцяпан Сцепанёнак. Ён жа перапанаў аднавяскоўцаў падпісацца пад ёй. І цяпер «пажынаў плады»: аднавяскоўцы яго вінавацілі ў пагаршэнні становішча, а памешчыкі абрынулі на яго сям'ю ўвесь цяжар прыгону. Не ў стане далей трываць, 16 верасня 1835 ён пайшоў у мазырскі суд скардзіцца на жорсткасць паноў Стоцкіх.

Словы Сцяпана ўразілі маладога судовага засядацеля Заблоцкага. Ён вызваўся праверыць сведчанні і 27 верасня прыбыў у Рэмезы. Тое, што пабачыў і пачуў Заблоцкі, асабліва пра жонку Бярнарда, пані Ганарату Стоцкую, не паддавалася разуменню. Заблоцкі праз суд дамогся ад уласнікаў Рэмезаў «не прыгнятаць сялян сваіх залішнімі



**«Беларускі раб» («Славянскі нявольнік»), 1840, літаграфія мастака родам з Мінска Юзафа Азямблоўскага, якой Адам Міцкевіч ілюстраваў свае лекцыі ў Парыжы аб прыгонным праве ў Расійскай Імперыі.**

працамі і іншымі жорсткасцямі».

Сяляне радаваліся, Сцепанёнак стаў галоўным героем ваколіцы. Але ненадоўга. Пан Бярнард падаў апеляцыю і прымусіў адправіць у Рэмезы іншага засядацеля. Ім стаў Макоўскі, вядомы хабарнік і ліслівец. Як вынік, нічога дрэннага выяўлена не было. Наадварот, адзначалася празмерная клапатлівасць гаспадароў да сваіх сялян. А Заблоцкага перавялі ў іншы павет.

Сцепанёнак працягваў змаганне, якое яго разарыла і прымусіла ўлезці ў вялікія пазыкі. Яшчэ двойчы справа паміж рэмезаўскімі сялянамі і памешчыкамі Стоцкімі пачыналася і вярталася на дапрацоўку з канцылярыі мінскага губернатара спачатку ў мазырскі земскі суд, а потым да ваеннага начальніка павета маёра Маліноўскага. У абодвух выпадках доказаў віны не было выяўлена. І 4 мая 1843 года мінская крымінальная палата прызнала Стоцкіх цалкам невінаватымі.

Для жыхароў Рэмезаў пачынаўся жудасны трохгадовы перыяд татальнага тэрору, вартасць сюжэта для фільма жахаў. Пазней жандары канстатавалі, што сваімі катаваннямі Стоцкая «прывяла ў настолькі моцнае засмучэнне і страх сялян сваіх, што яны не толькі звярнуцца на яе са скаргаю асцерагаліся, але нават аб'явіць каму-небудзь пра яе ўчынкі».

### Слуга, забіты за талерку

У кастрычніку 1846 года жандарскаму падпалкоўніку Турскаму трапіў на стол данос. Аўтарам яго быў святар праваслаўнай Рэмезаўскай царквы Якаў Радзевіч. Ён паведамляў, што 29 верасня Ганарата Стоцкая забіла свайго 13-гадовага слугу Івана Лаўрэнава Каваля. А ўначы 2 кастрычніка цела яго таемна пахавалі на вясковых могілках муж Стоцкай — Бярнард. Характэрна, што святар адрасу звярнуўся да жандараў, а не пісаў у мазырскі суд, дзе Стоцкія мелі «руку». 17 кастрычніка ў Рэмезы прыбыла следчая група.

Высветлілася, што толькі за два апошнія тыдні Ганарата Стоцкая закатавала дваіх дзяцей — 13-гадовага хлопчыка і 16-гадовую дзяўчыну.

Іван Каваль паходзіў з Рэмезаў і ўжо два гады працаваў у фальварку. Амаль штодня яго каралі фізічна. Не ў час прынёс ваду, павольна падаў талеркі, задумаўся — любая такая правіна каштавала 20—30 удараў розгамі ці бізуном.

Ад частага біцця Янка маркоціўся і паступова дайшоў да знясілення. 29 верасня перад абедам ён выпадкова ўпусціў талерку, за што, па загадзе Стоцкай, атрымаў 20 розгаў. Увечары пані загадала хлопчыку падаць вады. Але ёй падалося, што Янка зрабіў гэта занадта марудна. Стоцкая ўдарыла хлопчыка па галаве. Калі той упаў на падлогу, памешчыца, задыхаючыся ад злосці, пачала біць яго нагамі. Трохі супакоіўшыся, загадала Івану падняцца, але той, з-за моцнага болю ў левым баку, не змог. Пані загадала паставіць яму пяць піявак, але ноччу Янка памёр. Тры дні яго цела праляжала ў доме Стоцкіх, пакуль уначы не было пахавана на вясковых могілках.

### «Скачы, уража, як пан кажа»

Памешчыца Ганарата шукала найменшай нагоды, каб караць прыгонных: за смех, за размовы, за сустрэчу са сваякамі без дазволу... Яна ўвесь час выдумляла новыя зачэпкі. А яе любімым пакараннем было збіццё чалавека розгамі, вымачанымі ў салёнай вадзе. Колькасць удараў даходзіла да ста. Спецыяльна для гэтага пакарання ў маёнтку быў абсталяваны пакой з прымацаванымі да столі і падлогі жалезнымі кольцамі. Распрацугата пакутніка падвешвалі на верхніх кольцах скуранымі лейцамі. Да ніжніх мацавалі ногі. Следчыя адзначалі, што Стоцкая збівала ахвяр, пакуль яны не страчвалі прытомнасць: «Наносіла пабоі палкаю, бязменам і, якой бы ні трапілася ёй на вочы, цвёрдай прыладай, нават нажом па галаве, спіне, руках і нагах; не здавольваючыся гэтым, кусала зубамі цела, душыла рукамі за глотку і ціснула нагамі і каленямі грудзі і страўнік; ...накладала на шыю жалезныя ланцугі і замыкала на прабой, убіты ў сцяну, ліла за шыю кіпень, цягала за ногі па пакрытай лёдам зямлі на аголенай задняй частцы цела, ад чаго здзіралася да крыві скура, загадвала есці здохлых п'явак, паліла распаленым жалезам цела, загадвала ў сваім пакоі танцаваць, прамаўляючы няспынна: «Скачы, уража, як пан кажа».

### «Душа мая ненаедна патрабуе помсты»

Любімай пакаёўкай Стоцкай была 16-гадовая Аўдоцця Цімашчэнкава, якая праслужыла ёй шэсць гадоў. Памешчыца любіла дзяўчыну: тая бездакорна выконвала абавязкі, мела чароўны тварык і пакорліва трывала штодзённае трохразовае пакаранне розгамі — ад 50 да 200 удараў. Усё цела пакаёўкі было ў сіняках і драпінах, і нават галава ў некалькіх месцах мела крывавыя раны, але біць па дзявочым тварыку памешчыца ніколі не дазваляла.

Пасля забойства Янкі Стоцкая з усёй нездаровай апантанасцю абрынулася на дзяўчыну. Сачыла за ёй, некалькі разоў заўважаючы, як на яе паглядае любімы служка памешчыцы — фурман Кастан Амбросіеў, які на яе загад катаваў прыгонных сялян.

Аднойчы Кастан разбудзіў Аўдоццю пасярод ночы і загадаў ісці да пані. Дакументы таго часу апісваюць жудасную сцэну: «...прынесены быў вялізны запас вымачаных у салёнай вадзе розгаў, і, нарэшце, уведзена была ў адной кашулі, босая, дрыжачая ўсім целам і бледная, як смерць, шаснаццацігадовая «злачынка». Стоцкая ласкава і далікатна пагладзіла яе па галаве і, злёгку прытрымліваючы за руку, ціхім і пакорлівым голасам прынялася ўгаворваць дзяўчынку, якая апусцілася пры ёй на калені, каб яна не плакала, не прасіла літасці, але цярпліва і пакорліва перанесла пакуты, якія яе чакаюць, гаворачы ёй, што яны нішто ў параўнанні з тымі пякельнымі пакутамі, якімі яна абавязана не прыгожаму тварыку і якія невыносна раздзіраюць яе душу з той хвіліны, калі ўпершыню адчула яна атруту рэўнасці...»

Потым на загад вар'яткі-памешчыцы Аўдоццю пачалі біць розгамі — як мага радзей і мацней. Калі яна страчвала прытомнасць, Стоцкая давала ёй вады і апраўдвалася: «Я цябе берагла і любіла, як дачку, а зараз душа мая ненаедна патрабуе помсты і атрымлівае асалоду ў ёй: я нявольная ўправіцца з сабою». Дзяўчыну смяротна скалечылі розгамі. Яна памірала сем дзён, лежачы на халоднай падлозе, Стоцкая час ад часу яе наведвала. Дзяўчына сканала ад выкіду кішак, і яе нежывое цела перацягнулі ў лядоўню.

### «Лепш спаліць яе цела»

Паўстала патрэба схаваць сляды злачынства. Праз тры дні, позняй ноччу, фурман Кастан са сваімі гаспадарамі здзейсніў жудасную справу. Яны пасеклі цела Аўдоцці, паклалі ў мех і прыхавалі ў загадзя выкапанай тут жа — у лядоўні — яме.

Праз чатыры дні пасля таго мех адкапалі і выцягнулі на двор, дзе ўжо кіпеў вялізны кацёл. Пані загадала Кастану кінуць у яго парэшткі Аўдоцці, зварыць і аддаць сабакам і свінням. Аднак Бярнард, даведаўшыся пра гэты план, назваў яго «дурным»: «Свінні і сабакі могуць разнесці косткі. Лепш спаліць яе цела».

Ганарыта пагадзілася. Кастан з панам вывезлі парэшткі Аўдоцці ў бліжэйшы лес і спалілі. Калі вогнішча прагарэла, яны патаўклі косткі, што не згарэлі, на дробныя кавалачкі.

Калі жандары пачалі дазнанне, фурман Кастан добраахвотна прызнаўся ў цяжкіх злачынствах, здзейсненых ім па загадзе сваёй пані. Была выяўлена яма ў лядоўні, дзе яны хавалі цела Аўдоцці, кацёл, у якім яно варылася, і месца яго спалення, дзе былі знойдзеныя дробныя фрагменты чалавечых костак.

Бярнард Стоцкі, не ведаючы пра прызнанні Кастана, спрабаваў перакласці ўсю віну на жонку: «Яна падвяргала пакутам і катаванням людзей. Няхай яе арыштуюць, яна ва ўсім злачынца і не мае права на маё шкадаванне». Калі ж даведаўся, што з'ўляецца адным з абвінавачаных, пачаў маліць аб прабачэнні, угаворваць следчых прызнаць яго адной з ахвяраў яго жонкі, якой ён, пад пагрозаю пакарання, баяўся запярэчыць. Нечакана ў часе следства Бярнарда разбіў паралюш.

Ганарыта ж Стоцкая, асуджаная да катаргі, атруцілася ў турме. Але памяць пра «мазырскую салтычыху», якая катавала ўласных сялян, надоўга засталася ў памяці жыхароў маёнтка Рэмезы.



**Васіль Герасімчык**

Гісторык. Нар. у 1987. Скончыў Гродзенскі ўніверсітэт, магістратуру Расійскага дзяржаўнага гуманітарнага ўніверсітэта і Торунскага ўніверсітэта імя Мікалая Каперніка. Пераможца конкурсу «Найлепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага».

Апавяданне. Піша **Алесь Кіркевіч**.

# Бывай, баця

Трое ў пухавіках і чорных вязаных шапачках валаклі аднаго. Той адзін то ішоў смірна, то нібыта спрабаваў вырывацца — тады рукі яму выкручвалі яшчэ больш старанна. Найтаўсцейшы з канваіраў, у сіняй падшыванай куртцы, перыядычна рабіў «палоннаму» падножкі, гупаючы сваім вастраносым ботам па яговых зношаных кросах у раёне ахілесавых сухажылляў.

— Пайшлі, пайшлі, не абарачвайся, — трымаючы дыстанцыю, праслізнулі побач па сцэначцы трансфарматарнай будкі два «памаранчавыя» супрацоўнікі ЖЭСу, вусаты дзядзька і жанчына.

Хлопца валаклі ў напрамку сіняга бусіка. Калі адлегласць склала пару дзясяткаў метраў, дзверы ў машыне ад'ехалі. Энергічная кампанія спынілася ля дзверак, «палонны» нават выпрастаўся, запхаў рукі ў кішэні.

— Стал, как барін! Залазь, мля! — гаркнуў таўсташчокі з вачыма навыкаце і выпісаў хлопцу падзатыльнік.

У салоне, з завешанымі фіранкамі і чахламі са штучнай скуры на сядушках, сядзеў толькі адзін чалавек у кепцы. Калі ўсе расселіся, а матор загудзеў, чалавек усміхнуўся і дастаў з унутранай кішэні дзве купюры:

— Красава!

* * *

«Прыйдзе вясна, будзе бачна, хто дзе насраў», — кажуць зазвычай пра нейкія карупцыйныя схемы. Для жыхароў Дамброўскага гэта зусім не метафара. Светла-карычневыя купкі на цёмна-шэрым асфальце з дзіркамі, як у швейцарскім сыры, ды на газоне з фарбаванымі ў жоўты турнікамі ці то для падцягвання, ці то для выбівання дываноў штодня аб гэтым нагадвалі.

Іван Сямёнавіч Бакланаў паліў на ганку панэльнага пяціпавярховіка ды ўзіраўся ў суседні дом з поштай на першым паверсе. Паліць можна было б і на балконе, але ён стараўся выходзіць на вуліцу: агледзець двор, спраўдзіць агульную абстаноўку. Трэба было кінуць вокам на навапрыпаркаваныя машыны, вывучыць аб'явы ЖЭСу на дзвярах. З Іванам Сямёнавічам віталіся, але не размаўлялі. Ён у адказ рытуальна ківаў галавой.

У Гродна Іван Сямёнавіч перабраўся ў 80-я, пасля службы ў Вільдэрпарку пад Дрэздэнам. Пра тыя залатыя часы ў трохпакаёўцы на першым паверсе па вуліцы Дамброўскага нагадвала «дэфіцытная» гэдээраўская мэбля, дыван на сцяны з пастаральным сюжэтам — ліса драпежна глядзіць на стаў з лебедзямі, а ззаду красуе вадзяны млын, — а таксама белы парцалянавы слон з адбітым біўнем і кляймом «Karl Ens».

Па-над пісьмовым сталом на кніжнай паліцы стаяла некалькі тамоў Акуніна ў таннай мяккай вокладцы ды «Звезда генерала Колчака». Уся рэшта бібліятэкі, у тым ліку белетрыстыка памерлай жонкі-настаўніцы нямецкай мовы, пераехала на дачу ў «ведамственным» кааператыве: Чэйз і ранні Кінг аселі на бліскучых падвясных паліцах з ДВП на абабітых вагонкай сценах, «Письма Н.К.Крупской», «Ленин в Париже» пайшлі ў камін, як неактуальныя.

Зрэшты, Акунін з Калчаком у хаце таксама зарасталі покрывам пылу: Іван Сямёнавіч даўно нічога не чытаў, а апошні год дык наогул не вылазіў з лякарні. Усе нечаканыя змены ў рэспубліцы ён сустрэў у стане, пра які марыць большасць начальнікаў і афіцэраў-тылавікоў: у стане поўнай адключкі.

* * *

Над камп'ютарам Сержука красаваў сцяг, утыканы значкамі, як лялька вуду, ды партрэт лысаватага палітыка са стаічным квадратным падбародззем. Калі год дзесяць таму Сяржук зайшоў на партыйны офіс аднаго пратэстнага руху, каб напісаць заяву на ўступленне ў яго ны моладзевы прыдатак, то лічыў, што заскочыў «у апошні вагон». Рэжым у чарговы раз меўся вось-вось паваліцца, а Сержуковы аднакурснікі — заняць цёплыя месцы ў гарвыканкаме ў розных там упраўленнях па справах моладзі... Сталася па-іншаму.

Рэжым памёр сам сабой, за адну ноч, але тыя, «хто быў нічым», так у гэтым стане і засталіся. Піраміда проста пасунулася на адно дзяленне. Замы сталі начальнікамі, замы замаў — першымі замамі і г.д. Канешне, з Еўропай стасункі наладзіліся, за мову ўжо ніхто нікога не цягаў па пастарунках, але ўсё адбылося неяк... не так, як мелася. Не так, як Сяржук сабе ўяўляў. Рэжым не быў пераможаны, а сышоў са сцэны, як акцёр, што страціў цікавасць да п'есы.

Выходзячы на працу ў Гістарычны музей ранкам 25 сакавіка, які так і не стаў выходным днём, Сяржук зладзіў сваю персанальную акцыю пратэсту супраць рэчаіснасці, якая яго ўпарта ігнаравала.

Не без цяжкасцяў адсунуўшы два шпінгалеты, бо механізм стаў тугім з-за напластаванняў фарбы розных гадоў, малодшы навуковы супрацоўнік масавага аддзела выйшаў на балкон, па-зладзейску агледзеўся ды замацаваў прышчэпкамі на дроце для бялізны сцяг. Той самы, што вісеў над камп'ютарам ля партрэта стоіка. У двары ўнізе яшчэ нікога не было.

«Каму трэба, той убачыць, — пракруціў у галаве Сяржук, зноў засоўваючы шпінгалет. — Удзень усё адно ж на пошту пацягнуцца».

* * *

У Міколавым офісе было душна, нягледзячы на сырасць і халодны паўночны вецер звонку.

— Цібя, кажацца, баця іскал, — праходзячы поруч, кінуў Віталік з пухлымі шчакамі ды вачыма навыкаце.

— Пасіб, сча перезваню, — Мікола пацягнуўся праз увесь закіданы паперамі стол да гарадскога тэлефона — бацька не выносіў мабільныя.

— Ну, што там? — пасля пары гудкоў перапытаў Мікола.

— Приезжай, надо поговорить, — як заўжды, загадкава і нават змрочна кінуў старэчы голас.

Зрэшты, сам па сабе голас ды інтанацыя яшчэ ні пра што не казалі. Іван Сямёнавіч любіў напускаць туману загадкавасці на самыя элементарныя рэчы. Нават паездка на дачу ў былыя часы нагадвала спецаперацыю. Калі ён персанальна не расказваў пра яе сыну, а інфу прастадушна «зліvala» маці, Іван Сямёнавіч заўжды нерваваўся:

— Кто цібе сказал?

— Ба-ця, перестань. Мама сказала.

— Ммм... Я же ей говоріл...

Інтуіцыя разам з тым падказала Колю, што гэтым разам не ўсё так проста, нешта здарылася. Гэта дрэнна, бо... бацька дагэтуль жыў у свеце паўгадовай даўніны, праспаўшы пад кропельніцамі ўсе грамадска-палітычныя зрухі мінулай восені. Яму ж ні пра што не казалі, ведаючы загадзя нервовую рэакцыю. Смерць жонкі, алкаголь, інсульт — усё гэта сур'ёзна выбіла з формы немаладога ўжо падпалкоўніка. Трэба было берагчы нервы.

Можа, ён нешта заўважыў? З кімсьці пасварыўся ў пад'ездзе, далей жа ўсё адно не ходзіць... А можа, нейкія ліпкія маёмасныя пытанні? Няма чаго гадаць, трэба ехаць.

* * *

Праз паўтары гадзіны Міколаў «опель» ужо аб'язджаў дзіркі ў сырападобным асфальце ў двары на Дамброўскага. Аб'ехаць іх ён мог і з заплюшчанымі вачыма: як-ніяк вазіў некалькі разоў на тыдзень бацьку ежу, чаргуючыся з сястрой, тоўстай супрацоўніцай пашпартнага стала Жаннай.

— Садісь. У нас во дворе ЧП. А может, і во всей стране. Что-то не так, — не міргаючы, прамовіў баця, падпіраючы спінай халадзільнік «Атлант».

Мікола збялеў. Значыць, сказалі...

— Вчера, прімерно в восем трідцать, бела-красный флаг вывесілі над почтай, пряма на балконе. Я, конечно, позвоніл в міліцыю, а там, — бацька вытрымаў паўзу, — там кінулі трубку. Пазваніл Алексеевічу, он на пенсії, конечно, но вдруг... не взял. Ну, может, в больнице, канешна.

Сын перавёў дыханне. Сітуацыя складаная, але не крытычная.

— ...но я этава так не аставлю. Написал в прокуратуру два письма. Про флаг і на дежурного «02», который трубку кінул, там время указано в бумаге. Отнесёш на почту отправіш заказнымі. У міня связі...

Увесь гэты спектакль, які яны з сястрой ігралі вакол бацькі апошнія паўтара месяца, рызыкаваў праваліцца. Зрэшты, а які тут спектакль? Старому ж не брахалі ў вочы, проста нічога не казалі. Жанна спачатку назвала Колю прыдуркам за ідэю захаваць усё ў таямніцы, але пасля пагадзілася, каб не браць адказнасць і не даваць у рукі самагубцу зараджаны пісталет у выглядзе стосу свежых рэспубліканскіх газет.

Паштовую скрыню Коля проста разбіў двума ўдарамі фомкі — каб не было нават спакусы нешта выпісваць. Хуліганы ў пад'ездзе, бывае... Тэлевізар па легендзе знаходзіўся ў заця жным рамонце ў «Гаранце»: то кінескоп не могуць падабраць, то майстар у запой пойдзе. Бацька «роптал», а пасля забыўся, таблеткі рабілі сваю справу не горш за алкаголь усе апошнія гады.

— Да, я всё занесу, баць, не валнуйся.

— Угу.

Трэба было дзейнічаць, пакуль падпалкоўнік у адстаўцы Бакланаў не пачаў апошні ў сваім жыцці крыжовы паход, не ведаючы нават, каму зараз належыць Ерусалім... Дзейнічаць — тэрмінова.

* * *

Адзіноту Сержука, падавалася, нішто і ніхто не мог азмрочыць. Сцяг быў спакойна зняты ўвечары 25-га і перавешаны на яго законнае месца. Ноўт быў складзены і схаваны недзе на шматпавярховых паліцах з альбомамі па мастацтве і стосамі «Советского фото». На стале, які на часператвараўся ў хірургічны, быў распластаны фотаапарат «Canon», набыты ў «мядовыя гады» паездак за мяжу і лёгкіх грошай. Любоў да фота, дарэчы, яшчэ адна супольная рыса з лысаватым стоікам, што ўзіраўся са сцяны.

Мацюкнуўшыся пару разоў, Сяржук нарэшце пакінуў свайго «пацыента» і пайшоў адмыкаць. Званку настойліва званілі. «Міліцыя? Не, не можа быць», — імгненна пранеслася ў галаве малодшага навуковага супрацоўніка.

— Дарова.

— Пры-вітанне, — здзіўлена акінуў вачыма свайго колішняга дваровага кента Сяржук.

— Есть мінутка?

— Без праблем, у мяне выхадны сёння. Праходзь.

Мікола зайшоў, агледзеўся ў вітальні. «Разувацца, не разувацца? — прамільгануло непрыемная думка. — Рамонту даўнавата не было, а не прыбіраліся хіба яшчэ даўжэй...» У зал Мікола прайшоў, не здымаючы карычневых лакаваных ботаў.

— Што чуваць? Заняты троху.

— Я понял. Такое дзела. С бацей беда. А тут ты ...ну, накасячіл трахец. Нужна помасч...

Сяржук залыпаў вачыма і ўжо падумаў, што дарма адчыніў дзверы. Падчас Міколавых энергічных тлумачэнняў музейшчык некалькі разоў бялеў, чырванеў, але так і не вымавіў ані слова, каб не перарываць дакладчыка. Нарэшце Мікола скончыў.

— Не, я не згодны, — заматаў галавой, склаўшы рукі замком, Сяржук.

— Почему?

— Гэта прыніжэнне гонару і годнасці.

— Фсево адзін раз.

— Не.

— Эта важна для старіка, панімаеш?

— Я разумею....

— Ну. Падумай, эта ж не проста так. Ты ж без дзенех сядзіш, та?

— Мажліва.

— А тут сотня за полчаса...

— Паўгадзіны ганьбы.

— Какая разніца? Эта ігра!

— Тым не менш.

— 150, Сёга, не вы...вайся.

— Прабач, не.

— Ну, мля...

Сяржук падхапіўся з дабітай чэхаславацкай канапы і стаў ля акна, бліжэй да сцяга з партрэтам. Сонца падкрэслівала яго ны сілуэт.

— Не крыўдуй, Мікола, ...200. Менш — не.

— Замётана, — холадна адрэзаў Коля, сцяўшы сківіцы.

* * *

Усю працэдуру экзекуцыі Іван Сямёнавіч уважліва назіраў з акна, канспектуючы ў галаве кожную дэталь. Увечары пра ўсё скупа «далажыў» сыну:

— Забралі пі...ра, с флагом который, над почтой.

— Да-а? — шчыра здзівіўся Мікола. — Ты відзел?

— А то, — усміхнуўся падпалкоўнік у адстаўцы. — Я фсё віжу.

На стале парам дыхалі два гранёныя кубкі ў падшклянніках з крамлёўскімі вежамі.

— Пісьма закінул?

— Што?.. Да-да...

— Эта харашо. Я атвета фсё равно буду ждать. І па флагу атпішут, пачему цэлый день провісел, і па дзежурнаму.

З кубкам у руцэ Іван Сямёнавіч падышоў да акна, скрозь цемру, асветленую жоўтым святлом ліхтароў, намацваючы позіркам абрысы пошты.

— Захацелі, мля, как дедушка Ленін: телеграфы, почты, вакзалы... Мала далі ему!

— Баць, не куры многа, а?

— Сам знаю.

— Атветы цібе с пракуратуры па пошце прыдут, не звані зря.

— Угу.

Сербануўшы гарбаты, Мікола пайшоў абувацца. Бацька запаліў, не адыходзячы ад акна.

Засынаў Іван Сямёнавіч гэтай ноччу з ледзьве заўважнай усмешкай на твары.

* * *

Са сценаў на супрацоўнікаў зняважліва глядзелі дыпломы ў рамках: «Лідар», «Намінант», «Удзельнік выставы». Узнагароды, зрэшты, належалі не людзям, а прадуктам: «Маскоўскай каўбасе», «Гедымінавым вяндлінам», «Сасіскам па-панску».

— Коля, у цібя мабіла пілікала, — адазваўся да Міколы таўсташчокі Віталік са свайго камп'ютарнага крэсла.

— Пасіб, гляну, — абыякава кінуў шэф, падыходзячы да стала.

Сэнсарны экран спачатку не слухаўся, а можа, не слухаліся пальцы? Няважна... «Серж» у прапушчаных. «Што ему нада? Расчытаться ведь...» Пайшлі гудкі.

— Званіл.

— Так-так, слухай, маеш хвілінку? — па той бок зазвінеў фальцэт малодшага навуковага супрацоўніка.

— Маеш, — ледзьве чутна прашыпеў Мікола.

— Я вось з якой нагоды... Ты, канечне, сам глядзі, але калі раптам для твайго старога трэба... ну, перыядычна, нешта падобнае. Калі ёсць патрэба, я сам не навязваю. Ты кажы.

— Умер баця.

Не чакаючы адказу, Мікола скончыў размову ды кінуў мабілку ў шуфляду стала. Праз імгненне, праўда, дастаў назад і паклаў вонкі. Яшчэ мае пазваніць Жанна наконт рэстарана, а з ваенкамата — павядаміць пра аркестр.

* * *

Хавалі Івана Сямёнавіча з усімі вайсковымі ўрачыстасцямі, з духавым аркестрам, яловымі вянкамі і медалямі на чырвоных падушачках. Труна падпалкоўніка была сарамліва прыкрытая новым дзяржаўным бел-чырвона-белым сцягам.



**Алесь Кіркевіч**

Нар. 1989 у Гродне, у сям'і гісторыкаў. Быў адным з лідараў Маладога фронту. Пасля Плошчы-2010 асуджаны на чатыры гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Памілаваны ў верасні 2011. Працуе журналістам-фрылансерам.



Каля пасольства РФ у Мінску прайшла акцыя салідарнасці з украінскай лётчыцай Надзеяй Саўчанка. Агулам прыйшло 20 чалавек. Міліцыя склала пратаколы на ўсіх удзельнікаў пікетавання.



МАРЫЯ РОЛЬСКІЦЕ

Кожны год, калі надыходзіць каталіцкая Вербная нядзеля, жыхары Ашмянаў ладзяць незвычайнае шэсце. Усе збіраюцца пасля службы ў касцёле. Самыя дужыя мужчыны ўздымаюць крыж, які вырабілі напярэдадні, і нясуць яго праз увесь горад. Канчатковым пунктам з'яўляецца гара, на якую ўзносяць крыж. Жыхары гэтую гару празвалі Кальварыяй.



Вікторыя Азаранка (справа) перамагла ў прэстыжным тэнісным турніры ў амерыканскім Індыян-Уэлсе. У фінале яна адужала сваю адвечную суперніцу Серэну Уільямс — 6:4, 6:4. Азаранка перамагла Уільямс у чацвёрты раз у фіналах турніраў — больш за ўсіх. Беларуска пасля перамогі вярнулася ў топ-10 сусветнага тэніса.






Папа Францыск завёў афіцыйны акаўнт у Інстаграме. 19 сакавіка ў ім быў апублікаваны першы здымак. На дадзены момант на акаўнт падпісалася больш за 1,6 мільёна чалавек.



АНДРЭЙ КАВАЛЕВІЧ

На поўдні Беларусі зацвілі пралескі.



## Анекдоты і жарты

* * *

— Дзе ў Беларусі найбольшая канцэнтрацыя мільянераў?

— У турме КДБ.

* * *

– У тваіх аднагодкаў ужо жонкі, дзеці, машыны, іпатэкі!

– Гучыць так, нібы вінаваты ўсіх гэтых бедствах я.

* * *

Сакавік тэлефануе снежню:

– Чуеш, сябра, выйдзі сёння за мяне на працу.

Снежань:

– Ды не пытанне, браце, ты ж за мяне выходзіў.

* * *

Падлетак — чалавек, які гатовы да зомбі-апакаліпсісу, але не да заўтрашняй кантрольнай па матэматыцы.

* * *

Жонка з'ехала ў адпачынак. За два тыдні яе адсутнасці смецце вынес усяго раз. Вывад — у доме смеціць жонка!

* * *

Лета — рака, якая выцякае з лецішча кожнага беларуса.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Курыловічы.** Вілейскі павет. Адзін тутэйшы дзяцюк (не малады, гадоў 40 ужо мае) выдумаў гаручку, каб адвучыць сябе ад дзевак. У адну нядзелю Паўлюк сабраў у сябе суседзяў, устаў з лавы і кажа: «Прашу прысудзіць 20 розаг за Агатку, каб яна выйшла з галавы». Усе зарагаталі, але 20 розаг прысудзілі. Адлічылі, хто дубцом, хто дзягай. Калі скончылі, Паўлюк просіць прысудзіць 10 розаг за Паліну. Пасля за Юльку 5 розаг. Прысудзілі і за Юльку. Устаў Паўлюк і ісці не можа. Як выздаравеў, то гаспадары пытаюцца: ці забыўся Палінак, Агатак, Юлек? А Паўлюк галавой толькі круціць. Розгі не дапамаглі: які быў, і цяперака такі самы.

**«НН». №11. 1911.**

**Палітолаг Віталь Сіліцкі** пра вынікі выбараў-2006: Улады дзейнічаюць несіметрычна сённяшнім настроям людзей — уся гэтая істэрыя, нагнятанне страху і засілле ідэалогіі не апраўданыя. Але гэта вельмі прыдатная для ўладаў тактыка, бо такія дзеянні ў перыяд пэўнага зацішша, калі грамадства канчаткова не «прачнулася», даюць магчымасць зусім панізіць гэтае самае чаканне пераменаў. Па ўсім відно, што Беларусь прыйдзе да дэмакратыі ўласным, не ўкраінскім і не грузінскім, шляхам.

**«НН». №11. 2006.**

Наша Ніва
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| сакратарка рэдакцыі | Таццяна Кур'ян |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Ягор Марціновіч<br>Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6020. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 22.03.2016.
Замова №773.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 16011